© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016


# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1874) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 12 КРАСАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.


## ШЛЯХАМІ СКАРЫНЫ

**РАЗМОВА З МІНІСТРАМ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ПЯТРОМ КРАЎЧАНКАМ**

**— Спадар міністр, нам вядома Ваша заангажаванне ва ўшанаванне памяці вялікага беларускага гуманіста і асветніка Францішка Скарыны. 31 мая 1991 года Вы адкрылі мемарыяльную дошку ў яго гонар у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, дзе ў 1504—1506 гадах вучыўся наш беларускі першадрукар. Як доўга Вы ходзіце ўжо слядамі Скарыны?**

— Скарынаўскімі справамі я займаюся ўжо тры-чатыры гады, займаўся яшчэ тады, калі не быў міністрам, але сваёй працай быў звязаны з беларускай культурай. У Менску было аб'яўлена, што будзе святкавацца 500-годдзе Скарыны. Прынялі, што адзначацца будзе ў 1986—1990 гадах. Але асноўныя святкаванні прыйшліся на восень 1990 года.

У 1988 годзе стаяла пытанне пра помнік Францішку Скарыне. Я быў на чале арганізацыйнага камітэта. Сабралі ўсіх скульптараў Беларусі — 50 чалавек, пасадзілі ў аўтобус, паездзілі дзень. Адны прапанавалі паставіць помнік у Верхнім Горадзе, другія — на Ракаўскай шашы, кудою мог ісці малады Скарына (па дарозе Менск — Полацк — Вільня). Большасць лічыла аднак, што помнік павінен стаяць каля Акадэміі навук, там жа блізка знаходзіцца і друкарня, якую калісь прадбачваў Скарына, там і Батанічны сад.

Быў аб'яўлены конкурс. Даводзілася нялёгка: трэба было, каб у мастака захвалявалася душа, каб усё тое, што меў адлюстраваць у скульптуры, ён убачыў на яве.

Была наладжана даўжэйшая вандроўка: Менск — Варшава — Кракаў — Прага — Люблін — Менск. Два

**( Працяг на стар. 6 )**



*Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка на сустрэчы з беларускімі дзеячамі ў Беластоку ( 2 сакавіка 1992 г. ).* **Фота А. Максімюка.**

## НАРАДА Ў КАМІСІІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ І ЭТНІЧНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

18 сакавіка 1992 года ў Варшаве адбылося пасяджэнне сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцяў, якую ўзначальвае юрыст Ян Пянткоўскі. Ставіліся дзве праблемы: абмеркаванне законнай рэгуляцыі праблемы нацыянальных і этнічных меншасцяў у Польскай Рэчыпаспалітай і разгляд праекта стварэння пасады ўпаўнаважанага ўрада Рэчыпаспалітай па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў. У пасяджэнні прымалі таксама ўдзел прадстаўнікі многіх нацыянальнасцяў, у тым ліку дэлегацыі беларускіх арганізацый: БДА і БГКТ. На пачатку пасол Яўген Чыквін запрапанаваў, каб прадстаўнікам меншасцяў даць магчымасць паказаць Камісіі праблемы свайго асяроддзя асабліва ў галіне фінансавання ўрадам асветнай і культурнай іх дзейнасці, паколькі весткі з Міністэрства культуры і мастацтва ў гэтай справе, на жаль, вельмі адмоўныя. У адказ на прапанову, намеснік міністра культуры і мастацтва Міхал Ягелла паінфармаваў, што невялікія датацыі на фінансаванне культуры меншасцяў у 1992 годзе не з'яўляюцца рэстрыкцыйнымі, а іх абмежаванне вынікае з фінансавых цяжкасцяў краіны. Паабяцаў ён аднак, што Міністэрства будзе старацца, каб урад павялічыў фінансавыя сродкі на гэту мэту. Вядома, што сярод удзельнікаў не выклікала гэта асаблівага энтузіязму і надзеі. Старшыня камісіі прапанаваў паасобным меншасцям злажыць да канца сакавіка ў пісьмовай форме свае пажаданні ў справе фінансавання іх дзейнасці.

Галоўнай тэмай нарады была праблема закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях. Выказванні прадстаўнікоў меншасцяў, членаў камісіі і экспертаў канцэнтраваліся на пытанні: патрэбны такі закон ці хопіць канстытуцыйнага запісу аб юрыдычнай роўнасці ўсіх грамадзян Польшчы. Многія прадстаўнікі меншасцяў (яўрэяў, немцаў, чэхаў і славакаў, ромаў, украінцаў) звярталі ўвагу на факт, што патрабаванне закона аб меншасцях не выклікана імкненнем да асаблівых прывілеяў.

Абумоўлена гэта больш за ўсё імкненнем да элімінавання з грамадскага жыцця праяваў нацыяналізму і дыскрымінацыі з боку большасці. Пакуль у Польшчы выступаюць у адносінах да ромаў такія факты як у Млаве, у адносінах да яўрэяў — такія, як у Варшаве (бій жыда!), ці ў адносінах да беларусаў такія, як у Беластоку (бій кацапа!), законнае ўрэгуляванне нацыянальных суадносін з'яўляецца неабходным. Побач прадстаўнікоў іншых нацый, за вырашэнне справы ў форме сеймавага закона выказаўся таксама старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Многія ўдзельнікі дыскусіі звярталі ўвагу на тое, што закон таксама ўсіх спраў не вырашыць. Да поўнай нармальнасці, якая выступае ў сучасных высокаразвітых, сапраўды дэмакратычных краінах, патрэбныя намаганні ўсяго грамадства і ўсіх устаноў на грамадскае і асабліва маральнае выхаванне чалавека. Закон патрэбны не як праява сучаснасці, а як фактар супрацьдзеяння рэгрэсу ў адносінах польскага грамадства да нацыянальных меншасцяў. Адзіны адменны погляд на гэту справу выказаў (у пісьмовай форме) старшыня Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак. БДА ўважае, што апрача канстытуцыйнага запісу не патрэбныя ніякія іншыя законныя ўрэгуляванні.

Трэба для поўнай праўды дадаць, што такі самы погляд выказаў таксама прадстаўнік КПН, але ён не з'яўляўся прадстаўніком нацыянальных меншасцяў.

У другой частцы пасяджэння, у якой прымалі ўдзел выключна члены сеймавай камісіі, справа накіравання ў Сейм праекта закона вырашана пазітыўна (8 членаў камісіі галасавала за накіраванне, 4 члены - супраць). Поўную падтрымку атрымала таксама прапанова паклікання прадстаўніка ўрада па справах этнічных і нацыянальных меншасцяў.

На канец хацелася б пажадаць, каб усе грамадзяне Рэчыпаспалітай Польскай без увагі на нацыю жылі згодна ў сапраўды сучаснай і сапраўды дэмакратычнай краіне.

**ЯНКА СЫЧЭЎСКІ**

## ПАДЗЯКА

### СВЯТОМУ САБОРУ ПРАВАСЛАЎНЫХ ЕПІСКАПАЎ

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і Камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы выказваюць сардэчную, шчырую падзяку Сабору праваслаўных епіскапаў за аказаную нам і ўсяму беларускаму асяроддзю прыхільнасць, якая спрыяе пабудове Гайнаўскага музея.

Дзякуючы вашым вырашэнням ва ўсіх цэрквах краіны 22 сакавіка 1992 г. быў праведзены збор грошай ад вернікаў на пабудову Беларускага музея. Мы поўнасцю перакананы, што фінансавая дапамога, а таксама добразычлівасць Праваслаўнай Царквы будуць спрыяць як развіццю беларускай культуры, так і Праваслаўя ў Польшчы.

Асабліва вялікую падзяку складаем Яго Высокапраасвяшчэнству прафесару Саве — Архіепіскапу Беластоцкаму і Гданьскаму за заўсёды вялікую прыхільнасць і добрую параду ў адносінах да нашых патрэб і імкненняў.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАМІНКІ ПА ПРОДКАХ

Узрастае зацікаўленне Менска беларусамі Беласточчыны, у тым ліку і нашым літаратурным жыццём. Сведчаць аб гэтым кніжкі нашых аўтараў, якія раз-пораз трапляюць на полкі кнігарняў Рэспублікі Беларусь. Апошняй была „Трызна" Міколы Гайдука (зборнік гістарычных апавяданняў).*

Мікола Гайдук — педагог і журналіст — здаўна цікавіцца беларускай мінуўшчынай. Свае гістарычныя нарысы публікуе ў „Ніве", раней цыкл „Шляхам гадоў", цяпер — „Нашы карані". Гэтым экскурсіям у гісторыю можна паставіць шмат закідаў, напрыклад: прыстасаванне фактаў да раней запланаваных канцэпцый, не заўсёды згодная са станам навукі буйная фантазія аўтара.

Але тое, што заганнае ў навукова-папулярных публікацыях, стаецца нярэдка козырам у белетрыстыцы. Аўтар апавяданняў мае поўнае права і нават абавязак карыстацца фантазіяй, ствараючы літаратурныя сюжэты, вобразы, персанажы. І гэта робіць Мікола Гайдук, стварае вобразы мінулага (сярэднявечнага — у найлепшых апавяданнях) Пабужжа і Панароўя на фоне гісторыі Русі, Яцвезі, Вялікага княства Літоўскага. Часта-густа нават на аснове аднаго летапіснага запісу будуе цэлы сюжэт апавядання. Прытым робіць гэта вельмі пераканаўча. Героі ягоных твораў гэта жывыя людзі, са сваімі радасцямі і клопатамі, у каханні ды барацьбе на смерць і жыццё.

Мова ў М. Гайдука надзвычай багатая, каларытная. Даволі многа ў ёй архаізаваных, стылізаваных слоў, якія памагаюць адчуць дух эпохі, але выкарыстоўваюцца яны ўмела, не засмечваюць апавяданняў, не з'яўляюцца цяжарам у разуменні твораў.

Само слова трызна, паводле „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", гэта заключная частка пахавальнага абраду ў старажытных славян, або наогул пахавальны і памінальны абрад, памінкі па нябожчыку. Апавяданні М. Гайдука можна лічыць такімі памінкамі па нашых продках, ушанаваннем іхняй памяці.

Агульнае ўражанне ад зборніка „Трызна" псуе крыху падборка і кампазіцыя твораў. Уперамешку з апавяданнямі, якія расказваюць пра сярэднявечча сённяшняй Беласточчыны, тыя, якія апісваюць дзіцячыя гады самога аўтара. Гэтыя апошнія адзначаюцца выразным дыдактычным характарам — вучаць старым беларускім меркам (даўжыні, вагі...). Таксама апавяданне „Паядынак", якое абапіраецца на рэаліі пасляваеннай Беласточчыны ў




рознагалоссі з асноўнай тэматыкай кніжкі.

Гэтыя заўвагі, якія адрасуюцца ў большай ступені да ўкладальніка і рэдактара „Трызны", чымсьці да аўтара, не паменшваюць якасці кніжкі. Варта яе прачытаць нават тым, хто з прозаю Міколы Гайдука знаёмы з „Беларускіх календароў" ці „Літаратурных альманахаў" „Белавежы". Тым больш павінны гэта зрабіць тыя, хто з ягонай творчасцю яшчэ не знаёмы.

(мв)

* *Мікола Гайдук, Трызна. Апавяданні. Мінск, „Мастацкая літаратура" 1991*

# ПАВЕДАМЛЕННІ МІЖНАРОДНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСІСТАЎ

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны пры Аддзяленні грамадскіх навук Акадэміі навук Беларусі і Міжнародны камітэт беларусістаў арганізуюць навуковую канферэнцыю „Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў". Адбудзецца яна 19—20 жніўня 1992 г. у Менску і Маладзечне, у час заняткаў Міжнароднай школы беларусістаў.

Плануецца абмеркаваць:

— генезіс, эвалюцыю, праявы, адметнасць, гістарыяграфію, крыніцазнаўчую базу нацыянальнай свядомасці беларусаў;
— ролю гэтай самасвядомасці ў жыццядзейнасці беларускага этнасу і шляхі яе ўмацавання;
— карані нацыянальнага нігілізму беларусаў;
— самасвядомасць беларусаў у яе ўзаемадачыненнях з самасвядомасцю іншых нацыянальных супольнасцей Беларусі (рускіх, палякаў, яўрэяў, украінцаў, татараў і інш).

Заяўкі з указаннем назвы даклада (20 мін.) ці паведамлення (10 мін.) прымаюцца да 1 чэрвеня на адрас:
**Менск, 220072
праспект Скарыны, 66
пакой 420 (тэл. 39—55—91, 39—48—83)**

* * *

Міжнародны камітэт беларусістаў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Саюз дызайнераў Беларусі і вытворчае аб'яднанне „Промсувязь" імкнуцца пашырыць інфармацыю пра Беларусь на розных кантынентах свету.

З гэтай мэтай рыхтуем да выдання серыю насценных перакідных календароў, прысвечаных помнікам старажытнай і сучаснай беларускай культуры, якія будзем выдаваць у Фінляндыі.

Каляндар на 1993 год прысвячаецца храмавым інтэр'ерам Беларусі. Сярод іх такі помнік сусветнага значэння, як фрэскі XII ст. Спаса-Ефрасіньеўскай царквы ў Полацку, фрэскі XV ст. царквы Дабравешчання ў Супраслі, фрэскі XVIII ст. касцёла езуітаў у Нясвіжы і інш.

Спадзяемся, што такія календары зацікавяць не толькі Вас — нашых землякоў, але і дзякуючы Вам грамадзян дзяржавы, якая стала другой Радзімай.

Каб вызначыць пэўны тыраж выдання, просім загадзя нас інфармаваць пра Вашы адносіны да нашай прапановы. Заказ на патрэбную Вам колькасць календароў на 1993 год, якія можна распаўсюдзіць сярод знаёмых, просім накіраваць па адрасу:
**Рэспубліка Беларусь, 220072, Менск, праспект Ф. Скарыны 66, пакой 420, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.**

# АЛІМПІЙЦЫ

У Беластоку адбыліся акруговыя элімінацыі сярэдніх школ Алімпіяды рускай мовы, якія арганізавалі Міністэрства нацыянальнай адукацыі і Краёвае праўленне аб'яднання супрацоўніцтва Польшча—Усход.

На цэнтральныя элімінацыі, якія адбудуцца ў днях 10 — 13 красавіка бягучага года ў Варшаве, журы закваліфікавала пяць найлепшых алімпійцаў — якраз усе яны з'яўляюцца вучнямі агульнаадукацыйных ліцэяў — з Дубровы Беластоцкай, Гайнаўкі і Беластока. Вось яны: **Кацярына Кулак** (I месца) і **Анна Трэмбовіч** (III месца) з Дубровы, якіх рыхтавала настаўніца Рэгіна Дзеніс; **Альжбета Стэпанюк** (II месца) з Гайнаўкі, якую рыхтавала Яўгенія Буйноўская; **Яраслаў Місюк**) — I беластоцкі ліцэй і **Ян Койла** — VI беластоцкі ліцэй (падзялілі яны чацвертае месца). Рыхтавалі іх настаўнікі Мар'яна Шульборская і Мікалай Туроўскі.

Варта дадаць, што ў дзесятцы найлепшых удзельнікаў акруговых элімінацыяў знаходзіцца **Івона Дунікоўская** (V месца) з Беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. Яе да алімпіяды рыхтавала настаўніца Яўгенія Апалінская.

Віншуем!

ЯСЕНЬ

# 35 ГАДОЎ З ДНЯ ДЭБЮТУ

24 сакавіка споўнілася 35 гадоў з дня, калі выйшаў друкам верш Віктара Шведа „Я беларус". Вершам гэтым Віктар Швед дэбютаваў у „Ніве". З гэтай нагоды адбылася ў нашай рэдакцыі адмысловая ўрачыстасць.

На ўрачыстасці, акрамя цяперашніх і былых журналістаў „Нівы", прысутнічалі сакратар Беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў Крыстына Канэцкая і дырэктар Аддзела грамадскіх спраў Ваяводскай управы ў Беластоку Эўгеніюш Біль-Ярузельскі.

У асяроддзі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", сказаў у сваёй прамове былы галоўны рэдактар „Нівы" Георгій Валкавыцкі (у яго менавіта Віктар Швед дэбютаваў), завялася добрая традыцыя адзначаць юбілеі. Расказваючы пра літаратурны лёс Віктара Шведа, не мог ён пазбегчы заўваг пра лёс самое „Нівы", бо абедзве тэмы шмат у чым спалучаліся.

Галоўны „віноўнік" урачыстасці, юбіляр Віктар Швед расказаў прысутным пра пачаткі сваёй паэтычнай творчасці, а рэдактар „Нівы" Віталь Луба прыгадаў усім змест верша „Я беларус", адзначаючы, што верш гэты з'яўляецца нечым накшталт артыстычнага крэда Віктара Шведа — закранутыя ў ім думкі прабіваюцца ва ўсёй далейшай творчасці паэта.

Дырэктар Аддзела грамадскіх спраў Эўгеніюш Біль-Ярузельскі, указваючы на вартасці паэзіі Віктара Шведа, звярнуў увагу на важнасць ягонай творчасці для дзяцей — зараз няшмат паэтаў, якія так паслядоўна займаюцца дзіцячай творчасцю.

Бляску цэлай урачыстасці прыдаў знакаміты пачастунак, які нарыхтавала жонка паэта.



*Эўгеніюш Біль-Ярузельскі віншуе Віктара Шведа з юбілеем дэбюту.* Фота А. Максімюка



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЯК ГЭТА РОБЯЦЬ У АМЕРЫЦЫ

11 сакавіка гэтага года наведаў нашу рэдакцыю мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Амерыцы **Мікалай**. Суправаджалі мітрапаліта відныя дзеячы беларускай эміграцыі **Васіль Русак і Мікола Ганько**. У рэдакцыі гаварылі яны і пра мову царкоўнага жыцця.

**Мікола Ганько:** Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ёсць беларускамоўная Царква. У ёй усё адбываецца па-беларуску: саборы, запісы, службы. Што датычыць літургіі, дык па-беларуску поўнасцю вядзецца святарская частка, а спяваецца тое, на што прыгатоўваюцца хоры ці пеўчыя данай парафіі. Справа пераходу на беларускую мову тут найцяжэйшая і мы робім яе паступова. Да існуючых мелодыяў падбіраем словы, бо дзеля стварэння новых спеваў неабходныя вялікія прафесіянальныя сілы, якіх у эміграцыі няма. Некаторыя думаюць, што эміграцыя з'яўляецца вялікай, накшталт дзяржавы, структурай — з тэатрамі, міністэрствамі, універсітэтамі і прэзідэнтам.

Беларуская Царква падтрымала свядомасць эміграцыі. Была яна тым жыццёвым прыпынкам, да якога далучаліся беларусы ўсіх канфесіяў, каб працаваць у карысць свайго народу. Дарэчы датычыць гэта кожнай эміграцыі — Царква ёй неабходная, бо апынуўшыся ў эміграцыі, Царква становіцца народнай і служыць для тае часткі народу, які ў эміграцыі яднаецца.

*— Мала таго, што народнай — нацыянальнай.*

**М. Ганько: Абсалютна так, але я не хацеў гэтым словам карыстацца. Кожная нацыя, якая апынулася ў эміграцыі, імкнецца стварыць сваю нацыянальную Царкву, бо яна — душа народу, без яе народ не можа захаваць сваю самабытнасць.**

**Мітрапаліт Мікалай:** Сказана тут было, што Царква — гэта душа народу. Што датычыць Беларусі і Беласточчыны дык душа гэтая павінна быць беларускай, бо Царква служыць свайму народу. У Беларусі і тут, на Беласточчыне, даводзілася мне чуць, што ў Царкве можна гаварыць на кожнай мове, але той, хто так гаворыць, уводзіць у нашу Царкву ерась. У беларускіх парафіях прынамсі святары павінны гаварыць па-беларуску.

У Менску святары гаварылі са мною на чысцюсенькай беларускай мове і я веру, што Царква там будзе станавіцца беларускай, хаця працэс гэты доўгі і марудны. А ў вас, на Беласточчыне, калі святарства не пойдзе ў гэтым кірунку, не будзе спрыяць беларускаму руху, а толькі аддаляцца ад яго, дык беларускаму руху тут будзе вельмі цяжка. Царква на Беласточчыне павінна ісці ў гармоніі з адраджэннем нацыі, яе свядомасці і мовы.

Запісаў

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## Фота-вітрына



**Бусел.**

Фота У. Завадская.

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXII. ЗМАГАННЕ ЗА САМАСТОЙНАСЦЬ

Найважнейшай падставай для пастаўлення праваслаўным патрыярхам канстанцінопальскім Беларускай дзяржаве (Вялікаму княству Літоўскаму) на пераломе XIII і XIV стагоддзяў мітрапаліта з сядзібаю ў Навагрудку (сённяшнім Навагрудку) і з кафедрай у Свята-Барысаглебскім саборы была вялікая колькасць праваслаўных, іх актыўнае царкоўнае жыццё і дбаласць вялікага князя пра духоўныя патрэбы ягоных праваслаўных падданых. Істотнай прычынай было таксама і тое, што спрадвечная мітрапалічая сталіца на ўсходнеславянскіх землях, горад Кіеў, перастаў быць сталіцай дзяржавы, а на яго раз-пораз нападалі, рабавалі ды выводзілі з яго ў няволю людзей татары. Таму з паловы XIII стагоддзя мітрапаліты кіеўскія і ўсяе Русі перасяліліся ў больш бяспечную, але адлеглую Паўночна-Усходнюю Русь, спачатку ва Уладзімір-на-Клязьме, а потым на стала ў Маскву. Гэта страшэнна аддаляла архіпастыра ад яго паствы, ад асноўнай масы праваслаўных, якія жылі на землях сённяшніх Украіны і Беларусі. Аддзялялі таксама ўсё больш непрыязныя граніцы паміж Вялікім княствам Маскоўскім і Беларуссю ды Галіцка-Валынскай Руссю. Пануючыя ў гэтых дзяржавах крыва назіралі на тое, што духоўны іерарх іхніх падданых жыве ў далёкім, чужым, а нават варожым княстве ды, вядома, ужо сваёй прысутнасцю там, а тым болей духоўнай дзейнасцю спрыяе яго ўмацаванню і ўзвышэнню. Таму князі Галіцка-Валынскай Русі і Беларусі імкнуліся да заснавання ў сваіх дзяржавах мітрапалічых кафедраў. Гэта згодна з уставам праваслаўнай Царквы, паводле якога кожная дзяржава мае права на мітраполію. Такім чынам паўсталі мітраполіі спачатку ў Навагрудку, потым у Галічы.

Першым вядомым нам па імені мітрапалітам беларускім быў Феафіл, мабыць, грэк па паходжанні. Захаваліся дакументы, што ён як навагрудскі мітрапаліт удзельнічаў у Канстанцінопальскім саборы 1327-1329 гадоў.

Неабходна адзначыць, што не толькі з-за пералічаных прычынаў паўстала Навагрудская праваслаўная мітраполія. У Беларусі Царква жыла поўняй жыцця: ва ўсіх больш значных асяродках узвышаліся храмы, значная колькасць іх была мураваная. Было нямала манастыроў, у якіх інакі і інакіні займаліся навучаннем грамаце не толькі княскіх нашчадкаў, але таксама дзяцей рыцарства, гараджан, нават заможных сялян. У зацішку манастырскіх келляў перапісваліся кнігі, у майстэрнях ствараліся іконы. Пра высокі ўзровень духоўнага жыцця на пераломе XIII-XIV ст. ст. напрыклад, у Полацку найлепш сведчыць тое, што з гэтага рэлігійнага цэнтра былі ўзяты ў епіскапы ў суседняе Цверскае княства выдатныя багасловы Сіміон (пастырстваваў у гадах 1274-1285) і Андрэй (хіратанісаваны ў 1290 г.).

Мітрапаліт Феафіл памёр каля 1330 г. Пасля яго смерці маскоўскі мітрапаліт Феагност дабіўся ў Канстанцінопалі далучэння ўсіх епархій Беларусі і Галіцка-Валынскай Русі да Маскоўскай мітраполіі. Гэта моцна не падабалася Гедыміну і яго зяцю князю галіцка-валынскаму, Баляславу-Юрыю, і ў выніку іхніх захадаў у Канстанцінопалі была ўстаноўлена Галіцка-Беларуская мітраполія, да якой належалі ўсе беларускія і галіцка-валынскія епіскопіі. Гэтая мітраполія праіснавала да 1347 г.

Мітрапаліты беларускі і галіцка-беларускі зрабілі многа карыснага для праваслаўнай Царквы. Перш за ўсё яны ўмацавалі Праваслаўе як дамінуючае веравызнанне ў Беларускай дзяржаве і паглыбілі духоўнае жыццё ў праваслаўнай Галіцка-Валынскай Русі, пашырылі ўплывы Праваслаўя на неславянскае насельніцтва. Яго па добрай волі, без прымусу прынялі многія летувісы-літоўцы, латышы, жамойты, яцвягі і прусы, асабліва тыя з іх, якія жылі ў гарадах ці былі на княжацкай службе. Тады паўстала многа новых прыходаў і храмаў, у тым ліку нямала на неславянскіх землях.

Вялікі князь Гедымін садзейнічаў пашырэнню і ўмацаванню Праваслаўя. Ён быў унукам праваслаўнага князя полацкага Давыда Расціслававіча, яго сям'я таксама была праваслаўнай. Звычаем тых часоў князі мелі два імёны: княскае і хроснае, прытым у штодзённым ужытку і ў дакументах пераважна карысталіся княскім імем. Таму невядома праваслаўнае хроснае імя Гедыміна. Затое вядома, як падае гісторык Стрыйкоўскі, што Гедымінавы сыны: Нарымунт меў праваслаўнае хроснае імя Глеб, Альгерд зваўся Аляксандрам, а ў манастве Аляксеем, Любарт зваўся Фёдарам, Карыят — Міхаілам, Яўнута — Іаанам. Праваслаўнымі былі іхнія дваране, акружэнне, а таксама баяры, мяшчане.

Гедымін падкрэсліваў, што ён — хрысціянін. У 1324 г. у лісце да папы рымскага Іаана XXII ён пісаў: „... сам я веру ў Бога Айца і Сына і Духа Святога". Прытым, калі папа не суняў крыжацкіх нападаў на Беларусь, Гедымін гнеўна заявіў папскаму пасольству: „Я не ведаю вашага папы і ведаць не хачу. Вызнаю я веру сваіх продкаў і не здраджу ёй да смерці". Гэтыя словы дадаткова пацвярджаюць, што вялікі князь Гедымін быў праваслаўным.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

Майстар на ўсе рукі

## АННА КАЗЛОЎСКАЯ

Наведаў я яе ў адзін з апошніх дзён лютага бягучага года. Яна сядзела ля акна і вязала кручком белыя карункі. Некаторыя з іх былі вельмі далікатныя, тоненькія — быццам адмысловая павуцінка. Да гэтай жыхаркі Новага Ляўкова, што на Гайнаўшчыне, прывяла мяне звычайная цікавасць. Вось захацелася ўбачыць карункавую вытворчасць Анны Казлоўскай, пра выключныя здольнасці якой я пачуў ад мясцовых настаўніц. Як пасля высветлілася, не толькі яны захапляліся ручной вышыўкай (гафтам) аднасяльчанкі.

Дык вось я прыйшоў да Анны Казлоўскай і не мог паўстрымацца, каб не распытаць як след пра ўсё, што яна стварае. Перш за ўсё — як мала хто патрапіць вязаць кручком. Найлепш удаюцца ёй абрусы і ўсялякія настольнікі, сурвэткі, так званыя ўстаўкі на навалачкі. На сурвэтках з мудрагелістым узорам выступаюць розныя аздобы: будуць гэта перш за ўсё ўсялякія кветачкі (ружы ды васількі) або курачка з цэлай чарадою куранятак.

Зрок прыцягвае ручная вышыўка на ручніках. У тым ліку таксама з прыгожым беларускім арнаментам. Шматлікія ўзоры маюць многа раслінных элементаў і геаметрычных фігур.

Спрытныя рукі ў Анны Казлоўскай. Якія яна толькі не прыдумоўвае ўзоры! У яе „работах" уражваюць арыгінальнае харастве і непранікнёная загадкавасць радаводу. Вядома, уменне спалучаць колеры, узоры і формы ў непаўторнай прыгажосці цэласць — гэта вынік надзвычай тонкага пачуцця харства, якім валодаюць народныя ўмельцы, праяўленне іх прыродных мастацкіх талентаў.

Карунчачніца і вышывальшчыца ў адной асобе ўмее пашыць на швейнай машыне сукенку, спадніцку, блузку. Зробіць пруткамі світар або шкарпэткі ці панчохі.

Варта дадаць, што Анна Казлоўская перажыла дзве сусветныя вайны. Падчас першай апынулася з бацькамі аж но ў Ташкенце. Тут кіргіз хацеў купіць яе за жонку, за пятнаццаць вярблюдаў. У часе другой сусветнай вайны немцы вывезлі на прымусовую работу на швейную фабрыку ў ... Беласток. Зараз Анне Казлоўскай 94 гады.

**ЯСЕНЬ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# ЧОРНАЯ-ЦАРКОЎНАЯ

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Дзевяностыя гады XIX ст. аказаліся цяжкімі для сялян. У прыхадской „Хроніцы" тадышні настаяцель запісаў: 1891 — неўраджай; 1893 — эпідэмія халеры; 1893 — агульны эканамічны крызіс, паніжэнне цэнаў на землярובчыя прадукты; у 1897 г. — зноў неўраджай і голад. Некалькі сем'яў у пошуках зямлі і лепшага лёсу выязджае ў Сібір.

Да 1899 г. камплектуецца дакументацыя новай Чарнянскай царквы. У 1899 г. зацвярджаецца праект храма аўтарства гродзенскіх архітэктараў Івана Плотнікава і Ляонція Жаваранкава. Найважнейшым актам падрыхтоўкі да пабудовы было благаслаўленне Епіскапа Гродзенскага і Брэсцкага Якіма, дадзенае 17 ліпеня 1900 г. З вялікім энтузіязмам будаўнікі храма прыступілі да работ.

Ужо перад прыхадскім святам Пакровы Божай Маці 1901 года быў устаноўлены рэдкі сярод цэркваў Падляшша, трохрадавы іканастас (работы іканапісца і пазалотчыка Пятра Гілевіча з Віцебшчыны). Храм быў высвячаны яшчэ ў гэтым, 1901 годзе. Вялікі па памерах, з пяццю купаламі і высокай званіцай стаў храм упрыгожаннем усяго сяла. Гэтая царква стала галоўнай, але і апошняй справай жыцця а. Аляксея Валкоўскага. Першага лютага 1902 г., праз 20 мінут пасля адслужэння Святой Літургіі а. Аляксей неспадзявана памірае. Так адыйшоў у вечнасць адзін з выдатнейшых святароў, не толькі ў Чорнай-Царкоўнай. На зямлі пакінуў матушку Анну і васьмёра дзяцей з 2-ух да 16-ці гадоў. Чарнянскія прыхаджане і духавенства Гродзенскай Епархіі, спачуваючы гору асірацелай сям'і свяшчэнніка старалася дапамагчы ёй духоўна і матэрыяльна. Духавенства перадало сям'і ў 1903 годзе звыш 330 рублёў. За гэтую суму матушка супачылага а. Аляксея змагла пабудаваць, з дапамогаю сялян, уласны дом у Чорнай.

Пасля смерці а. Аляксея Валкоўскага на пасаду настаяцеля ў Чорнай-Царкоўнай прыходзіць а. Якаў Архангельскі. Ён жа кіруе працамі над завяршэннем пабудовы храма. Царква атрымлівае новыя іконы і абсталяванне, нямала ў дарах ад сялян. Сярод ахвярадаўцаў трэба таксама адзначыць а. Іаана Сяргеева (св. Іаана Кранштадскага), які перадаў Чарнянскаму храму 100 рублёў. У 1908 г. на званіцы першы раз прабівае новы звон (14 пудоў і 14 фунтаў вагі). Добра развіваецца заснаванае а. Аляксеем Валкоўскім школьніцтва.

У 1905 г. прыход налічвае 1150 асоб. Выступаюць, аднак, даволі значныя міграцыйныя працэсы. І так, у 1913 г. 20 асоб выехала ў Сібір, а 30 асоб падалося ў Амерыку.

Год 1915 прыносіць ужо не добраахвотную, а вымушаную міграцыю — бежанства. На некалькі гадоў вёскі Чарнянскага прыходу пусцеюць. Толькі ў 1918 г. насельніцтва пачынае вяртацца з „прастораў" Украіны і Расіі ў родныя мясціны.

У нялёгкім пасляваенным перыядзе, ужо ў межах новай польскай дзяржавы трэба было практычна пачынаць з нуля. Царква ў Чорнай-Царкоўнай шчасліва перажывала гады „exodusu" сваіх прыхаджан. Пашчасціла людзям таксама з новым свяшчэннікам. Ужо ў маі 1919 г. быў сюды назначаны а. Пётр Кузьмюк, родам з-пад Святой Гары Грабаркі. На практыцы свайго прыхода ў Чорнай, яму было дадзена перанесці ўсе складанасці праўнага становішча Праваслаўнай Царквы ў II Рэчы-паспалітай. Доўгія ж гады пасля 1918 г. дзяржава не аб'явіла канкрэтна пра свае адносіны да Праваслаўнай Царквы, а часовыя распараджэнні ўрада ў той галіне не маглі гарантаваць нейкую нармалізацыю ў царкоўным жыцці. Аднак Чарнянскі прыход меў шчасце. На яго тэрыторыі вялікімі маёмасцямі валодаў граф Патоцкі, прыхільны ў адносінах да праваслаўных. У публічным жыцці займаў ён адказную пасаду ў Міністэрстве веравызнанняў і публічнай асветы.

Паводле распараджэння Міністэрства веравызнанняў, Бель-скае стараства дазволіла адкрыць у сваім павеце ў 1922 г. 11 праваслаўных „штатных" прыходаў з 38 існуючых перад I сусветнай вайной. Астатнія былыя прыходы былі аднесены да цэркваў „няштатных" і прыпісаны да „штатных" прыходаў. Пры „няштатных" цэрквах не магло быць сталага свяшчэнніка, а сам настаяцель „штатнага" прыхода мог служыць у іх толькі за згодаю ўлад.

Такая доля прыпала і а. Пётру Кузьмюку. У яго прыходзе апынулася 5 „няштатных" цэркваў з былых прыходаў: Гродзіск, Цехановец, Андрыянкі, Журобіцы і Бранск. Кіраваць такім абшырным прыходам не было лёгка. Дзякуючы высокай свядомасці прыхаджан і іх прывязанасці да праваслаўнай веры (што а. Пётр падкрэслівае ў „Хроніцы") удалося настаяцелю адстаяць царкву ў непарушнасці ад розных нягод і інтрыгантаў (тыпу нэаўніятаў).

Паводле „Кліровых Ведамасцяў" Чарнянскі прыход налічваў у 1923 г. 1992 асобы, пражываючыя ў 408-мі дамах; у 1935 г. 2551 асоба — у 473 д. З часам да іншых прыходаў адыходзяць цэрквы ў Бранску, Андрыянках і Журобіцах.

Прыходзіць II сусветная вайна; чарговыя змены. У сакавіку 1940 г. а. Пётр Кузьмюк вымушаны быў кінуць Чорную. Тым часам прыход вяртаецца ў свае даўнія межы і ў 1941 годзе налічвае 1153 асобы ў 220-ці дамах. Тут варта прывесці колькасць праваслаўных сем'яў у вёсках прыхода за 1941 год: Чорная-Царкоўная — 50 дамоў; Чорная-Сярэдняя — 70; Сямёны — 25; Спешын — 8; Карыціны — 10; Кобусы — 3; Галёнкі — 4; Казлова — 27; Малышчын — 2; Далубова — 4; Дзядковіцы — 16; Замінова — 1. У тым жа 1941 г. на пасаду настаяцела назначаецца а. Іван Якубюк. Ён перажывае разам з прыхаджанамі жудасны перыяд нямецкай акупацыі і не менш цяжкія гады пасля 1944 г. Бо трэба ведаць, што для гэтых людзей вайна не закончылася ў ліпені 1944 г., а стрэлы не змаўкалі тут яшчэ доўга.

Групоўкі „podziemia", а часта проста групы злачынцаў непакоілі тутэйшае беларускае насельніцтва, пастаянна грабілі яго. 31.01.1946 г. жыхароў Чорнай і ваколіц ускалыхнула вестка пра расстрэл у лесе каля суседняй вёскі Пухалы Старыя 28 беларускіх мужчын з Гайнаўшчыны. Пад пастаянным фізічным прэсінгам нямала сем'яў перасяляецца адсюль у СССР.

Яшчэ да пачатку 50-ых гадоў не было тут спакойна. Сітуацыя не спрыяла таксама нармалізацыі царкоўнага жыцця. Стан царкоўных будынкаў, уключна з храмам, быў вельмі дрэнны. Толькі з 60-ых гадоў, пасля назначэння новага настаяцеля а. Яўгенія Неліпінскага зварушаецца справа рамонтаў. У 1962 г. пачынаецца генеральны рамонт храма. З увагі на вялікія яго памеры і тэхнічныя складанасці рамонт праводзіцца цэлых 15 гадоў. Пасля яго завяршэння, у прыхадское свята Сашэсця Святога Духа ў 1977 г. прыход у Чорнай-Царкоўнай наведвае мітрапаліт Васілій.

Сёння праваслаўны прыход у Чорнай узначальвае а. Мікалай Аўсенюк. Запіша ён у царкоўнай хроніцы пабудову новага прыхадскога дома, а старую плябанію перадасць на патрэбы мясцовай школы. У межах прыхода пражываюць 402 асобы праваслаўнага веравызнання ў 160 дамах. Для нагляднасці і параўнання са станам 1941 г. прывядзем колькасць праваслаўных сем'яў у паасобных вёсках за 1991 г.: Чорна-Царкоўная — 30 дамоў; Чорная-Сярэдняя — 79; Сямёны — 11; Казлова — 14; Карыціны — 8; Дзядковіцы — 12; Галёнкі — 1; Спешын — 2; Замінова — 1; Далубова — 1; Малышчын — 1. Так вось бачым, у якіх аддаленых на захад вёсках можна знайсці праваслаўных беларусаў. Праўда, насельніцтва Чарнянскага прыхода ўжо нават з трэцяга пакалення на штодзень гаворыць па-польску. Адчувае, аднак, сваю іншасць і старацца як вывіць, галоўным чынам у адданасці сваёй праваслаўнай Царкве.

На заканчэнне прывядзем словы з царкоўнай хронікі а. Аляксея Валкоўскага, які ў 1889-1890 г.г. вось як пісаў пра насельніцтва Чарнянскага прыхода:

„Чарнянскі прыход, паводле племені, увесь належыць да беларусаў з малым дадаткам маларускага элемента. Два плямені ўзаемна змешаныя, так што правесці паміж імі падзел немагчыма. Вымова мовы беларуская з дадаткам некаторых слоў, выказванняў і адценняў маларускіх. Наогул такая мова толькі ў чыста праваслаўных вёсках: сяле Чорная-Царкоўная ды вёсцы Чорнай-Сярэдняй. У іншых вёсках, дзе праваслаўныя змешаны з каталікамі, там настойліва трымаецца польская мова з мазурскім акцэнтам. У гэтым сэнсе каталіцтва мае магічнае ўздзеянне на праваслаўных. Усе прыхаджане з'яўляюцца карэннымі жыхарамі, здаўна пражываючымі ў Чарнянскім прыходзе. Пачуццё самаўзвелічэння і пэўнай гордасці ад свядомасці сваёй годнасці ў вялікай ступені заўважальнае".



*Магіла а. Аляксея Валкоўскага ( 1863 – 1902 ) ля царквы ў Чорнай - Царкоўнай.*



*Духавенства і госці пад час візітацыі ўладыкам Савай прыхода Чорная-Царкоўная ў 1936 годзе. Пяты злева, каля епіскапа Савы, сядзіць граф Патоцкі – дырэктар у Міністэрстве веравызнанняў і публічнай асветы ў II Рэчыпаспалітай.*

**Фота з архіва П. П. Кузьмюка.**



*План Чарнянскай царквы.*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ШЛЯХАМІ СКАРЫНЫ

( Працяг са стар. 1 )

заводы — „Гарызонт" і „МАЗ" далі 300 тысяч крон, каб мы мелі на Чэхаславакію.

Мастакам усё гэта было дзіўна: без ніякага ўзгаднення з Масквою мы селі ў аўтобусы і паехалі.

У Ягелонскім універсітэце я быў не ўпершыню. Мы дагаварыліся наконт таблiцы, пабывалі на магіле Алеся Гаруна. У суме выйшаў летні скарынінскі універсітэт на калёсах. Слова бралі Адам Мальдзіс, Васіль Шаранговіч, Барыс Сачанка і я. Здавалася, што нашы скульптары атрымалі даволі сканцэнтраваную інфармацыю пра Скарыну.

**— Ці праўда гэта, што Меккай для беларусаў Вы лічыце Прагу?**

— Прага павінна быць Меккай для беларусаў, у ёй ад вякоў дзейнічаюць беларусы, дастаткова назваць хаця б Францішка Скарыну ці Міхася Забэйду-Суміцкага. У Празе мы знайшлі беларусістаў, знайшлі ўсе скарынінскія мясціны. Былі на той вуліцы, дзе стаяла друкарня, у якой у 1517 годзе, у пачатку жніўня была надрукавана „Біблія". Пабывалі таксама ў тым месцы, каля палаца Каралевы Ганны, дзе ў свой час Скарына закладаў Батанічны сад. Мы лічым, што менавіта каралева Ганна запрасіла ў Прагу Скарыну, бо яна з роду князёў Гальшанскіх і па крыві ў нейкай частцы беларуска (праўнучка каралевы Ядвігі). Гэты палац, „Летаградзец", — гэта летні палац. Каралева Ганна памерла вельмі маладая, была яна маці васьмі дзяцей. Муж яе Фердынанд найбольш прабываў у Вене і там памёр.

Усе калектыўна вырашылі, што Скарына павінен быць ушанаваны менавіта каля гэтага палаца.

Францішка Скарыну чэшскія камуністычныя ўлады лічылі толькі тэолагам і не разумелі яго ўкладу ў нацыянальнае адраджэнне. Былі супраць яго памяці. Але калі ў жніўні 1988 года я звярнуўся да тамашніх улад, мы атрымалі дазвол на помнік і мемарыяльную дошку ў гонар Скарыны ў Празе.

Крыху пазней мы пазнаёміліся з паняй Кастэцкай, якая калісь сябравала з Забэйдам-Суміцкім і штотыдзень насіла кветкі на яго магілу на Альшанскіх могілках.

**— Ці гэта паездка дала канкрэтныя вынікі?**

— У Менску, калі вярнуліся, усё стала больш складаным. Былі адкінуты ўсе праекты і ідэя помніка была пахавана на некалькі гадоў. У Празе — таксама не ўсё ішло гладка. У кастрычніку 1989 года я прыватным чынам вырашыў ехаць у Прагу. Зноў сустрэчы. Ĭ зноў — здаецца, поспех. Мяне запэўнілі, што помнік і дошка будуць.

Праходзіць даслоўна месяц — і „пежная" рэвалюцыя зноў пера-крэслівае ўсе планы. Зноў адмова мэра Прагі. Спрацаваў прынцып: калі камуністычныя ўлады сказалі „так", дык мы гаворым „не".

Некалькі месяцаў перапіскі. Нарэшце згода! Мяняецца мэр — і зноў негатыўная рэакцыя. Гэта прымусіла мяне паехаць ізноў у Прагу. Ĭ тут наступіла сустрэча з прэзідэнтам Вацлавам Гавелам.„Пан прэзідэнт! — сказаў я, уручаючы яму факсімільнае выданне „Бібліі" Скарыны і памятны медаль у гонар яго 500-годдзя. — Мы вяртаем вам тое, што ў свой час вы далі нам, — „Біблію". Хачу падкрэсліць, што гэты пераклад святога пісання быў другім сярод славянскіх народаў — пасля перакладу на чэшскую мову".

Пытанне было вырашана. На наступную раніцу ў восем гадзін мяне разбудзіў тэлефонны званок. Званіў намеснік мэра Прагі і вельмі ветліва запрасіў выбіраць месца для помніка. За мной прыслалі машыну, і ў 8.30 раніцы я паехаў да палаца каралевы Ганны і там **ужо трэці раз** паказаў чэшскім афіцыйным асобам месца, дзе б мы хацелі паставіць помнік. Было таксама афіцыйнае пацвярджэнне з боку пана Вондры, дарадчыка прэзідэнта, на згоду будовы помніка.

**— Але наогул цікавіла Вас не толькі Прага?**

— Вярнуўшыся ў снежні 1989 года ў Менск, я ўнёс у Савет Міністраў прапанову аб прыняцці спецыяльнай пастановы па ўшанаванні памяці Скарыны ў Празе, Кракаве і універсітэце ў Падуі. Пастанова была прынята.

Прайшло некалькі месяцаў. З Прагі атрымліваем афіцыйны ліст: на помнік згодны, на дошку — не (а дагаварваліся, што будзе ў Старым Месцы пражскім, прыкладна на той бок вуліцы, дзе ў той час існавала друкарня). Абгрунтаванне: аднаму чалавеку аж два праекты, звязаныя з яго ўшанаваннем, гэта замнога.

Я вымушаны быў напісаць князю Шварцэнбергу, які выконвае функцыю канцлера прэзідэнта Гавела і сябруе з ім. У цяжкія для Гавела часы ён як юрыст выступаў у якасці адваката (аўстрыйскі і чэшскі грамадзянін). У свой час гэтаму княжацкаму роду належала адна трэцяя Маравіі, у тым ліку замак Орлі.

У канцы верасня 1991 года адбылася сустрэча з міністрам замежных спраў Чэшскай і Славацкай Федэратыўнай Рэспублікі Іржы Дынсберам — зноў рубам ставіцца гэта пытанне. Толькі ў лістападзе 1991 года мы атрымалі паведамленне з Прагі, што пасля ўзгаднення з Пражскім магістратам Міністэрства замежных спраў ЧСФР прыняло рашэнне аб тым, што ў г. Празе будуць устаноўлены і помнік і мемарыяльная дошка ў гонар Францішка Скарыны. Вясной, у маі 1992 года помнік і дошка ў Празе маюць быць адкрыты. Аўтарам помніка будзе Эдуард Астаф'еў, а мемарыяльнай дошкі — Алесь Дранец.

**— Ці будзе штосьці ў Падуанскім універсітэце?**

— У Падуі ва універсітэце будзе бюст Скарыны, выкананы Мікалаем Рыжан-ковым. Пра мемарыяльную дошку ў Кракаве ў Ягелонскім універсітэце вы ўжо ведаеце.

**— А што чуваць у Менску?**

— Конкурс праведзены. Пераможца ёсць. Але пакуль што ўсё ціха.

**— Як на Беларусі...**

*Менск, 11 снежня 1991 г.*

Гутарыла
**АДА ЧАЧУГА**



*Беларускі міністр замежных спраў Пётр Краўчанка ўручае Вацлаву Гавелу факсімільнае выданне „Бібліі" Скарыны і памятны медаль у гонар яго 500-годдзя.*

# КРАСУНІ З КРАСНАГА СЯЛА

*або*

## *Яны задаволеныя, што з артысткамі спяць*

У сёлетнім конкурсе „Беларуская песня" вакальны гурт **„Красуні"** з Краснага Сяла ў катэгорыі неапрацаванага фальклору заваяваў першае месца — разам з калектывам з Арэшкава. У гэтай жа катэгорыі спаборнічаў яшчэ калектыў з Орлі, але адпаў. „Вой, але як яны, тыя арлянскія жанчыны размалёўваліся перад сваім выступам! — кажуць сёння Красуні, — а мы паехалі па-просту, як звычайныя вясковыя бабы".

Вакальны жаночы гурт „Красуні" сабраўся ўпершыню 10 студзеня 1991 года. Калі запытаеш іх, чаму такую назву сабе прыдумалі, дык адкажуць: „А таму, што ўсе мы з Краснага Сяла, а да таго ж прыгожыя з нас жанчыны, а калі яшчэ паразмалёўваемся, то ўвогуле!".

Тое, што камісія конкурсу „Беларуская песня" разглядала гурт у катэгорыі неапрацаванага фальклору, найлепш характарызуе песні, якія спяваюць Красуні. Найчасцей гэта старыя песні, якіх панавучвалі іх яшчэ бабулі. Нават сам Сцяпан Копа, які часамі заязджае ў Краснае Сяло, здзіўляецца: „Адкуль вы берацe свой рэпертуар?" Да Красуняў прыязджае таксама адзін інструктар з Украіны, але яны ўсё-ткі лічаць сябе беларускім гуртам. Каб хтосьці з Беларусі прыехаў, кажуць, нам лепей пасавала б. Але ж, няма ш.

У мінулым годзе Красуні ездзілі на агляд „Беларуская песня" ў Бельск, занялі там першае месца і трапілі ў Беласток. У Беластоку здабылі другое. Акрамя ўдзелу ў аглядах Красуні выступаюць з канцэртамі — былі ў Мельніку і Сопаце. Таксама калядуюць. У Красным Сяле хадзілі чуткі, што быццам бы грошы з калядавання Красуні прапілі, але гаварылі так толькі зайздроснікі. У сапраўднасці грошы гэтыя — жанчыны прызначылі на царкву. А калі б нават і прапілі, сказала мне адна Красуня, дык якая каму да гэтага справа. На здароўе!

На штодзень Красуні займаюцца гаспадаркай. Ці можна з яе сёння выжыць? Можна, адказваюць, бо ж мы жывем, хаця праўда і тое, што ў горадзе пераліваюць наша малако з вядра ў картонныя пудэлкі і бяруць за іх па восем тысяч. Быў час, што і ў нас куплялі хлеб у краме, кажуць, але цяпер пячэм яго самі. Хутка, пэўна, лён давядзецца сеяць, а і жорны вернуцца ва ўжытак. Ну, не кажыце, перабівае іншая Красуня, ці абавязкова так ужо дрэнна быць мае. Ці з гора мы так спяваем, бо я думаю, што ад радасці.

„А што пра ваша спяванне думаюць вашы мужы?" — дапытваюся. Як што, задаволеныя, што з артысткамі спяць, адказваюць. Наводзяць радзіва і слухаюць, што там пра іх жонак скажуць. Пажаніліся з вясковымі гаспадынямі, а выйшлі з іх артысткі. Вось што! Так яно і было, дадае адна, прыйшоў да майго аднаго разу Любін чалавек ды кажа:„Ну, як у цябе, бо я і не думаў, што на старасць з артысткаю спаць буду".



*Гурт „Красуні" з Краснага Сяла. Фота А. Максімюка.*



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.

ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

10. Галіцызмы.1

Пераважная большасць галіцызмаў (слоў французскага паходжання) пранікла ў беларускую мову праз пасрэдніцтва польскай і рускай моў на працягу XIX—XX ст.ст., хаця некаторыя словы пачалі пранікаць ужо ў XVI ст. „Асобныя галіцызмы маглі трапіць у мову беларусаў непасрэдна (праз Беларусь ляжалі шляхі многіх дыпламатаў і купцоў, у Беларусі ў XVI—XVII ст.ст. пасяліліся адукаваныя людзі з Захаду, у заходнееўрапейскіх універсітэтах навучаліся выхадцы з Беларусі), але асноўным каналам для іх пранікнення была польская мова. Напрыклад, ужо ў помніках XVI—XVII ст.ст. сустракаюцца французскія словы *банкет, берэт, ваканцыя* (г. зн. вакансія), *карнет, парфума, патэльня, рэпутацыя, сяржант, фатыга* і інш."2

Запазычанні з французскай мовы галоўным чынам звязаны з такімі сферамі жыцця грамадства, як:

— грамадска-палітычныя і міжнародныя адносіны: *авантура, аташэ, буржуа, бюлетэнь, бюро, візіт, гарантыя, гувернёр, дуэль, дэбют, журы, інтрыга, кар'ера, мараль, турнэ, шантаж, шэф, эгаізм*;

— ваенная і марская справа: *авіяцыя, армія, арсенал, артылерыя, атака, батальён, біvак, гвардыя, дывізія, дэзерцір, дэсант, кананада, капітан, капрал, карабін, маршал, міна, парашут, сапёр, флот, эшалон*;

— тэхніка: *аўтамабіль, бусоль, кабіна, культыватар, лакаматыў, мантаж, таксі, шасэ, экран*;

— эканоміка, гандаль, фінансы: *акцыя, акцыянер, банк, бюджэт, тарыф, тона*;

— мастацтва, літаратура, мовазнаўства: *ансамбль, антракт, балет, бюст, вадэвіль, гравюра, грым, дырыжор, кадрыль, кларнет, нацюрн, нацюрморт, сюіта, уверцюра, жанр, матыў, раман, сімвалізм, сюжэт, жаргон*;

— архітэктура, будаўніцтва: *апартамент, аранжарэя, атэль, балюстрада, вестыбюль, вітрына, гараж, тэраса, фасад*;

— быт:

а) назвы тканін, адзення: *батыст, блуза, велюр, вуаль, габардзін, трыкатаж, трыко, цюль, фасон, фланель*,

б) назвы прадметаў быту, упрыгожанняў: *абажур, адэкалон, брыльянт, ваза, кулон, лямпа, парасон, сакваяж*,

в) назвы страў і напіткаў: *амлет, антрыкот, булён, вінегрэт, дэсерт, кансервы, кампот, лікёр, марынад, сідр*.

Для слоў французскага паходжання характэрныя некаторыя фанетыка-марфалагічныя адзнакі, як:

— націск на апошнім складзе: *дэбют, шэдэўр, эшалон*; канцавыя націскныя *е, э, і, ы, о, ю: філе, турнэ, таксі, журы, пано, авеню*;

— спалучэнні *бю, вю, пю* ў пачатку і ў сярэдзіне слоў: *бюлетэнь, бюро, бюст, вестыбюль, гравюра, капюшон, пюрэ*;

— спалучэнні *лье, лья, нье* ў сярэдзіне слоў: *барэльеф, брыльянт, віньетка*;

— спалучэнні *аж (яж), ён, ёр, эт* у канцы слоў: *віраж, вавж, медальён, сапёр, сілуэт*;

— спалучэнні *ая, еа (эа), ія, юа, юі, уа, уэ* паміж зычнымі: *сакваяж, сеанс, ідэал, мініяцюра, нюанс, сюіта, гуаш, піруэт*;

— спалучэнні з насавымі гукамі *амп, ант, анп, анс, онс, ент, янт: амплуа, авантура, аванпост, асананс, анонс, абанемент, брыльянт*.

-------------------------------

1. Літаратура: Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 166—167; В.П. Красней, У.М.Лазоўскі, М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 61—62; Т.А. Мальцава, Да семантычнага асваення галіцызмаў у беларускай мове, у: Беларуская мова, вып. 9, Мінск 1981, с. 91—100.

2 В.П. Красней, ..., с. 61.




*„Красуні" на канцэрце ў Беластоку.* **Фота С. Грынявіцкага.**

Моладзь у Красным Сяле да спеву не горнецца. Ды колькі тае моладзі ў нас, кажуць Красуні, а і тая горстка, якая на суботу прыедзе з гарадоў, то куды ім да такіх жанчын, як мы. Можа, аднак, і нашы дзеці ўцягнуцца ў гэта, перабівае хтосьці.

У жаночым гурце „Красуні" спяваюць: Марыя Ляшкевіч, Ніна Семянюк, Люба Бандарук, Лідзія Бандарук, Лідзія Юрчук, Валянціна Марціновіч, Вера Малец, Вольга Петручук, Марыя Валосік і Ірэна Півавар. Кіраўнічкай гурту з'яўляецца Валянціна Марціновіч. Яна ў нас, кажуць Красуні, найгалоўная Красуня, без яе невядома, ці мы сабраліся б.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Прашу прабачэння ў Мечыслава Даўнаровіча з Краснага Сяла, што ў „Ніве" н-р 12 (1871) ад 22 сакавіка 1992 г. (артыкул „Фальклор ці сучаснасць?") я перабльітала яго прозвішча.**

**АДА ЧАЧУГА**

# ЗАГУЛЯЛІ І ЗАРАБІЛІ

Апошнія месяцы былі вельмі працавітымі для Гайнаўскага аддзела БГКТ. Многа часу і энергіі трэба было адвесці раённаму агляду „Беларуская песня '92". А найбольш завіхаліся пры гэтым і працаўніца БГКТ Галіна Маліш, і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко разам са сваімі супрацоўнікамі. Але перад гэтым мясцовыя бэгэкатоўцы арганізавалі навагодні (па старому стылю) баль. Дзякуючы супрацоўніцтву з аддзяленнем Беларускага фонда культуры з Гродна, а менавіта з яго намеснікам старшыні Надзеяй Трухановіч, на балі зайграў дасканалы вакальна-інструментальны калектыў Уладзіміра Васільева. Ён так моцна спадабаўся публіцы, што запрасілі іх яшчэ раз у Гайнаўку — на запусты. На гэтым балі гайнаўчане не толькі гулялі, але і зарабілі трохі грошай, якія пералічылі на рахунак Грамадскага камітэта пабудовы Музея.

Кантакты (не толькі гандлёвыя) беларусаў па абодвух баках граніцы становяцца часцейшымі. Летам мінулага года Беласточчыну наведала дэлегацыя настаўніц з Саюза беларускіх жанчын у Гродне, якую ўзначальвала Ліза Кашанкова. У лютым г.г. з рэвізітам на Гродзеншчыну ездзілі жанчыны з гуртка БГКТ пры Цэнтры сельскагаспадарчых парадаў у Гайнаўцы. Жаночы калектыў пад кірункам Альжбеты Кароўкінай прымаў удзел у выстаўцы „Добрая гаспадыня". Нашы жанчыны заваявалі першае месца. Былі кніжныя ўзнагароды, наладзіліся новыя знаёмствы, а выезд за мяжу прынёс нашым гаспадыням многа ўражанняў. А ездзілі нашы жанчыны на Гродзеншчыну на музейным мікрааўтобусе.

Пачынаючы з 1 сакавіка Аддзел БГКТ у Гайнаўцы знаходзіцца ў будынку Музея (вул. 3 Мая 42, тэлефон 2889).

**М.Г.**

# СХОД БЕЛАРУСАЎ У ОЛЬШТЫНЕ

347 галасоў, аддадзеных на спісак Беларускага выбарчага камітэта ў Ольштынскай выбарчай акрузе, сталі штуршком для беларускіх дзеячоў, каб стварыць Тэрытарыяльную раду БДА ў гэтым горадзе. Андрэй Гаўрылюк і Міраслаў Урбановіч яшчэ ў мінулым годзе вырашылі правесці арганізацыйны сход. Паведамленні пра час і месца сустрэчы былі па радыё і на старонках газеты „Dziennik Pojezierza". На першы сход — 26 студзеня г.г. — прыйшло толькі шэсць чалавек і мясцовая журналістка Янна Ванькоўская-Сабесяк. Вынікам сустрэчы быў артыкул „Адраджэнне аднова" ў „Dzienniku" ад 16 лютага. Наступны сход быў назначаны на 15 сакавіка і папярэджаны шырокай (нават тэлевізійнай) рэкламай-інфармацыяй. Гэта спрацавала — і да арганізатараў сталі тэлефанаваць зацікаўленыя людзі, каб упэўніцца ў праўдзівасці інфармацыі.

Другі сход прайшоў паспяхова. Апрача названых вышэй арганізатараў, прыйшлі: Іван Палавянюк, Андрэй Гарбуз, Міхась Германюк, Тамара Болдак-Яноўская з мужам Антонам і Янна Ванькоўская-Сабесяк, таксама з мужам. Прысутныя пазнаёміліся са статутам БДА і выбралі Раду. Яе старшынёю стаў Андрэй Гаўрылюк, а членамі: М. Германюк, М. Урбановіч і А. Гарбуз. Сябры БДА ў Ольштыне вырашылі збірацца кожную апошнюю нядзелю месяца а 17 гадз. у Доме студэнта ў Картове (пакой 318). У бліжэйшы час будзе арганізавана аўтарская сустрэча з Тамарай Болдак і будуць наладжаны кантакты з украінскай і нямецкай арганізацыямі.

**АНДРЭЙ БАБУЛЯ**

# ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ

Ад трэцяга да сёмага сакавіка бягучага года прабывала ў Польшчы асветніцкая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Міністрам адукацыі Віктарам Гайсёнкам. Была яна запрошана ў Польшчу міністрам нацыянальнай адукацыі Анджэем Стэльмахоўскім. Галоўная мэта візіта заключалася ў падпісанні дамоўленасці аб супрацоўніцтве на ніве асветы між Польшчай і Беларуссю. Яшчэ ў мінулым годзе Міністэрства асветы Беларусі звярнулася да Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы з прапановай заключыць такую дамоўленасць. Пасля некалькіх кансультацый, праведзеных у Мінску і Варшаве і канчатковага дашліфавання тэксту, было ў Варшаве падпісана двума міністрамі „Пагадненне...", тэкст якога поўнасцю друкуем на стар. 8.

Пятага сакавіка беларуская дэлегацыя прыехала ў Беласток. У польскую дэлегацыю, якая мела супольна з беларускай наведаць Беласточчыну, увайшлі міністр нацыянальнай адукацыі Польшчы Анджэй Стэльмахоўскі, дырэктар дэпартамента супрацоўніцтва з заграніцай у Міністэрстве адукацыі Польшчы Аўксэнцьюш Кацёра, беластоцкі куратар Пётр Літэрмус і я. Знаходзячыся на Беласточчыне, дэлегацыі наведалі Галоўнае праўленне БГКТ і сустрэліся з усімі зацікаўленымі асветніцкімі справамі.

У часе размовы з міністрам нацыянальнай адукацыі Польшчы праф. А.Стэльмахоўскім, я закрануў справу датацыі на пабудову Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Міністр А. Стэльмахоўскі сказаў, што ён з гэтай справай толькі знаёміцца і што адносіцца да яе з сур'ёзнасцю і добразычлівасцю. Падкрэсліў, што пакуль што не можа акрэсліць сумы датацыі, але запэўнівае, што будзе яна немалой і што ў хуткім часе будуць вядомыя яе размеры.

Прызнаюся, мяне вельмі задаволіла выказванне міністра.

Пасля дэлегацыі сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі Беларускага ліцэя ў Бельску, наведалі Падставовую школу ў Чыжах. Пераехаўшы ў Гайнаўку, наведалі Беларускі музей, царкву і Беларускі ліцэй. Пераначаваўшы ў Белавежы, вярнуліся ў суботу ў Беласток, адкуль паехалі праз Кузніцу ў Менск.

Прыглядаючыся зблізку беларускім гасцям, я пераканаўся, што Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь знаходзіцца ў кампетэнтных руках. Міністр адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак з'яўляецца прафесарам фізікі і дакладна азнаёмлены з праблемамі і патрэбамі беларускай асветы.

З прыемнасцю трэба сказаць, што ў падпісаным Пагадненні ўзяты пад увагу многія пастулаты, якія Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта скіравалі ў адрас Міністэрстваў адукацыі як Польшчы, так і Беларусі.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАГАДНЕННЕ

**аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствам нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь на 1992-1993 г.г.**

Грунтуючыся на пастаянных сяброўскіх сувязях паміж Рэспублікай Польшча і Рэспублікай Беларусь, прымаючы да ўвагі існуючы станоўчы вопыт супрацоўніцтва і ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб добрасуседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, Міністэрства нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якія будуць называцца ў далейшым „Бакамі", падпісалі наступнае пагадненне.

**Артыкул 1**

Бакі будуць супрацоўнічаць, асаблівую ўвагу звяртаючы на наступныя пытанні:
— абмен вопытам па важнейшых напрамках развіцця, кіравання і планавання ў галіне адукацыі і асветы;
— пастаяннае павышэнне кваліфікацыі навуковых і педагагічных кадраў, выхаванне дзяцей і навучэнскай моладзі;
— павышэнне эфектыўнасці навуковага супрацоўніцтва вышэйшых навучальных устаноў ва ўсіх галінах навук;
— развіццё і ўдасканаленне навучання беларускай мове ў школах Рэспублікі Польшча, а таксама польскай мове ў школах Рэспублікі Беларусь;
— узаемная падрыхтоўка кадраў у формах поўнага і ўключанага (частковага) навучання, дактарантуры, аспірантуры, навуковых стажыровак і курсаў павышэння кваліфікацыі і інш.;
— развіццё супрацоўніцтва непасрэдна паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі і навучальнымі ўстановамі ніжэйшага ўзроўню ўсіх тыпаў Беларусі і Польшчы.

**Артыкул 2**

Штогод з 1992/93 навучальнага года Бакі будуць накіроўваць студэнтаў і аспірантаў на поўны курс навучання ў вышэйшых навучальных установах, а таксама вучоных для праходжання дактарантуры на безвалютнай аснове (квота ўзгадняецца штогод).

**Артыкул 3**

Бакі будуць штогод накіроўваць навуковых супрацоўнікаў і выкладчыкаў для павышэння кваліфікацыі і праходжання навуковых стажыровак на безвалютнай аснове (квота ўзгадняецца штогод).

**Артыкул 4**

Бакі будуць імкнуцца да пашырэння ўдзелу вучоных у навуковых семінарах, канферэнцыях, чытанні лекцый, кансультацыях.
Абмен вучонымі ў адпаведнасці з гэтым артыкулам будзе ажыццяўляцца на безвалютнай аснове, а яго аб'ём будзе вызначацца непасрэдна кіраўнікамі зацікаўленых устаноў, падначаленых Міністэрству нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча і Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5**

Бакі будуць імкнуцца да абмену спецыялістамі на доўгатэрміновую педагагічную работу ў ВНУ ў галіне грамадскіх, прыродазнаўчых і тэхнічных навук, а таксама ў іншых галінах, зыходзячы з патрэб прымаючага боку.

**Артыкул 6**

Бакі будуць аказваць дапамогу навучальным установам, у якіх выкладаецца польская мова ў Рэспубліцы Беларусь (універсітэты ў г.г. Мінску і Гродна) і беларуская мова ў Рэспубліцы Польшча (Варшаўскі універсітэт).
Надаючы вялікую ўвагу навучанню польскай мове ў навучальных установах Беларусі і беларускай мове ў Польшчы і павышэнню ўзроўню выкладання, Бакі будуць працягваць супрацоўніцтва ў наступных напрамках:
— падрыхтоўка спецыялістаў у галіне беларускай і польскай мовы і літаратуры;
— павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў;
— удасканаленне вучэбных планаў і праграм, стварэнне сумесных аўтарскіх калектываў з мэтай напісання падручнікаў і метадычных дапаможнікаў.
З гэтай мэтай:
Міністэрства нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча накіруе, а Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь прыме:
— выкладчыкаў польскай мовы і літаратуры на работу ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь на тэрмін да 2-3 гадоў (зыходзячы з патрэб беларускага боку);
— студэнтаў беларускай філалогіі на ўключанае навучанне на безвалютнай аснове (па Пагадненню паміж Варшаўскім і Гродзенскім універсітэтамі).
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь накіруе, а Міністэрства нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча прыме:
— выкладчыкаў беларускай мовы для работы ў Варшаўскім універсітэце або ў адным з ліцэяў на тэрмін 2-3 гады (зыходзячы з патрэб польскага боку);
— студэнтаў польскай філалогіі на ўключанае навучанне на безвалютнай аснове (па Пагадненню паміж Варшаўскім і Гродзенскім універсітэтамі);
— на курсы польскай мовы студэнтаў і выкладчыкаў на тэрмін да 30 дзён за кошт польскага боку.
Бакі разгледзяць магчымасць пашырэння навучання польскай мове ва універсітэтах Рэспублікі Беларусь і беларускай мове ва універсітэтах Рэспублікі Польшча.

**Артыкул 7**

Бакі будуць аказваць неабходную дапамогу ў распаўсюджванні ведаў роднай мовы і ўдасканаленні яго выкладання на ўсіх узроўнях адукацыі (дашкольнае выхаванне, пачатковае навучанне, няпоўная сярэдняя і сярэдняя школа, вышэйшая адукацыя) сярод беларускіх грамадзян польскай нацыянальнасці, пражываючых у Рэспубліцы Беларусь, і сярод польскіх грамадзян беларускай нацыянальнасці, пражываючых у Рэспубліцы Польшча.
У адносінах да навучальных устаноў, рэалізуючых працэс навучання на роднай мове, Бакі прымуць да ўвагі аднолькавыя патрэбнасці павышэння кваліфікацыі як настаўнікаў роднай мовы (польскай у Беларусі і беларускай у Польшчы), так і ўдасканаленне ведаў мовы выкладчыкаў іншых прадметаў, выкладаючых на гэтай мове.
З гэтай мэтай:
Польскі бок накіруе, а беларускі бок прыме за свой кошт:
— настаўнікаў беларускай мовы і іншых прадметаў, выкладаемых на гэтай мове, на курсы павышэння кваліфікацыі на 30-дзённы тэрмін навучання (квота ўзгадняецца штогод);
— моладзь беларускай нацыянальнасці на навучанне ў вышэйшых і іншых навучальных установах Беларусі (квота ўзгадняецца штогод).
Беларускі бок накіруе, а польскі бок прыме за свой кошт:
— настаўнікаў польскай мовы і іншых прадметаў, выкладаемых на гэтай мове, на курсы павышэння кваліфікацыі тэрмінам да 30 дзён (квота ўзгадняецца штогод);
— моладзь польскага паходжання на навучанне ў вышэйшых і іншых навучальных ўстановах (квота ўзгадняецца штогод).
Бакі разгледзяць магчымасць арганізацыі павышэння кваліфікацыі настаўнікаў польскай мовы і другіх прадметаў, выкладаемых у Рэспубліцы Беларусь на гэтай мове, з дапамогай выкладчыкаў з Польшчы, на тэрыторыі Беларусі, а таксама павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы і другіх прадметаў на тэрыторыі Рэспублікі Польшча з дапамогай выкладчыкаў з Рэспублікі Беларусь (У адпаведнасці з заяўкамі мясцовых органаў народнай адукацыі).
Падборам абітурыентаў на поўны курс навучання ў Рэспубліцы Польшча з ліку грамадзян Рэспублікі Беларусь польскай нацыянальнасці і ў Беларусі з ліку грамадзян Польшчы беларускага паходжання будуць займацца паўнамоцныя прадстаўнікі абодвух міністэрстваў адукацыі ў адпаведнасці з узаемна ўзгодненымі загадзя квотамі па колькасці.
Бакі прыкладуць намаганні да паляпшэння праграм навучання польскай мове — як роднай у Рэспубліцы Беларусь і беларускай мове ў Рэспубліцы Польшча, стварыўшы сумесныя кансультацыйныя калектывы.
Абодва бакі на ўмовах узаемнасці будуць падтрымліваць польска-беларускае і беларуска-польскае аўтарскае супрацоўніцтва ў падрыхтоўцы падручнікаў, слоўнікаў, метадычных дапаможнікаў, матэрыялаў і метадычных распрацовак у галіне вывучэння мовы, літаратуры і культуры.
Міністэрства нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь будуць супрацоўнічаць у працаўладкаванні ў школах і дашкольных установах Беларусі, у якіх вывучаецца польская мова, настаўнікаў і выхавацеляў з Польшчы, а ў школах і дашкольных установах Польшчы, у якіх вывучаецца беларуская мова, настаўнікаў і выхавацеляў з Беларусі ў адпаведнасці з патрэбнасцю і заяўкамі абласных (ваяводскіх) устаноў народнай адукацыі.
Мясцовыя органы народнай адукацыі прымаючага боку павінны забяспечыць запрошаных настаўнікаў і выхавацеляў дзіцячых дашкольных устаноў бясплатным медыцынскім абслугоўваннем, бясплатным жыллём і месячнай заработнай платай ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.
Кошт праезду ў абодва бакі аплачвае накіроўваючы бок.

**Артыкул 8**

Бакі будуць прымаць да ўвагі рэкамендацыі грамадскіх арганізацый пры вылучэнні кандыдатаў на вучобу, перападрыхтоўку, курсы павышэння кваліфікацыі, практыку і іншыя формы навучання і прафесіянальнага ўдасканалення.

**Артыкул 9**

Бакі будуць садзейнічаць рэалізацыі сумесных пачынаў, актывізуючых вучэбны працэс і падтрымліваючых імкненне да ведаў маладога пакалення (конкурсы, прадметныя алімпіяды, міжшкольныя спаборніцтвы, сумесныя мастацкія праграмы).

**Артыкул 10**

Бакі будуць садзейнічаць развіццю і паглыбленню супрацоўніцтва паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі ў галіне:
— арганізацыі работы навучальных устаноў;
— дыдактыкі і метадаў навучання;
— абмену спартыўнымі дэлегацыямі і ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці;
— выканання сумесных навукова-даследчых работ у галіне педагогікі, гуманітарных, тэхнічных навук, польскай і беларускай філалогіі, а таксама іншых галін, якія маюць важную ролю ў развіцці народнай гаспадаркі і культуры Польшчы і Беларусі і асабліва ў галіне сумесных даследаванняў узаемных польска-беларускіх гістарычных сувязей.
Рашэнні аб правядзенні сумесных навукова-даследчых работ будуць прымаць кіраўнікі зацікаўленых вышэйшых навучальных і навуковых устаноў.
Абмен у рамках гэтага артыкула будзе ажыццяўляцца на дагаворнай аснове, а яго аб'ём будзе штогод вызначацца кіраўнікамі супрацоўнічаючых устаноў.

**Артыкул 11**

Бакі будуць арганізоўваць абмен групамі вучняў і студэнтаў для праходжання вытворчай азнаямленчай практыкі на безвалютнай аснове. Квоты будуць узгадняцца непасрэдна зацікаўленымі ВНУ.

**Артыкул 12**

Бакі будуць садзейнічаць абмену групамі школьнікаў і настаўнікаў у канікулярны перыяд і будуць аказваць неабходную дапамогу ва ўстанаўленні прамога супрацоўніцтва паміж школамі (асабліва паміж прыгранічнымі ваяводствамі (абласцямі). Гэтае супрацоўніцтва будзе каардынавацца тэрытарыяльнымі органамі народнай адукацыі і ажыццяўляцца на безвалютнай аснове.

**Артыкул 13**

З мэтай ацэнкі супрацоўніцтва паміж міністэрствамі і абмену вопытам Бакі будуць абменьвацца дэлегацыямі спецыялістаў колькасцю да 10 чал. тэрмінам на 5 дзён на безвалютнай аснове.
Гэтае Пагадненне не выключае магчымасці рэалізацыі іншых сумесных мерапрыемстваў, загадзя ўзгодненых паміж Бакамі.
Падпісана ў Варшаве 5 сакавіка 1992 г. у 2-х экз. на беларускай і польскай мовах, тэксты на абедзвюх мовах маюць аднолькавую сілу.

**Міністр нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча**
**праф. АНДЖЭЙ СТЭЛЬМАХОЎСКІ**

**Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**праф. В. А. ГАЙСЁНАК**



*Міністры Віктар Гайсёнак і Анджэй Стэльмахоўскі ў Беластоку ( 5 сакавіка 1992 г.).*
**Фота А. Максімюка.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Зорка
Старонка для дзяцей



Ціха... Фота Я. Целушэцкага

# ШКОЛЬНІКІ НА СЦЭНЕ

У Гайнаўскім доме культуры адбыўся фінальны агляд школьных тэатральных калектываў, які арганізавала Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Удзельнікаў конкурсу і гледачоў прывіталі дырэктар ГДК Мікалай Бушко і намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі. Затым аб'явілі журы конкурсу ў саставе: Яніна Чэрнякевіч (старшыня), Алена Таболіч, Тамара Русачык і Аляксандр Іванюк.

Першымі свае выступленне пачалі вучні з Пачатковай школы ў Нарве. Былі гэта самыя маладыя акцёры. Падрыхтавалі яны п'есу пад загалоўкам „Чароўная лялька" і да яе арыгінальную багатую дэкарацыю. Пасля выступілі юныя самадзейнікі з Махнатага, Дубяжына і зноў з Махнатага. Махнатаўскія акцёры для пастановак выкарысталі выключна беларускія народныя казкі, а ўсе іншыя — п'есы, між іншым, „Пасля ўрокаў" і „Выкруціўся".

А вось вынікі конкурсу: І месца падзялілі калектывы з **Махнатага** і **Дубяжына;** II — заняў калектыў з **Махнатага** і III — калектыў з **Нарвы**.

Спецыяльную ўзнагароду журы прызнала наймалодшаму тэатральнаму калектыву з Нарвы. Сярод юных акцёраў за найлепшую ігру вылучыла **Марціна Трашчотку** з Махнатага, а таксама **Бэату Іванюк** і **Яанну Янушкевіч** з Нарвы.

З вучнямі-самадзейнікамі найбольш папрацавалі настаўніцы **Ніна Абрамюк, Анна Гаўрылюк, Зінаіда Сельвясюк і Яўгенія Таранта**. Належыцца ім вялікая падзяка.

Пасля агляду адбылася аўтарская сустрэча з членамі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" **Віктарам Шведам** і **Янкам Целушэцкім**.

А. ПРАЛЕСКА

## Вершы Віктара Шведа

### ПЭЎНА, СОНЕЙКА САПСАВАЛАСЯ

— Спі ўжо, Сонечка,
Больш не гавары.
Даўно сонейка
Згасла на двары.

Раптам донечка
Адазвалася:
— Пэўна, сонейка
Сапсавалася!



### ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЗУБЫ

— Хворы сягоння татка мой,
І ноч была страшэнная.
Ляжыць з распухлаю шчакой,
Зубы ён мае дрэнныя.

Твае, бабуля, як відаць,
Зубы надзвычай спраўныя.
— Мае, унучак, не баляць,
Яны ўжо ўсе... дзяржаўныя.



# ЯСЕЎ КУФЭРАК

Калі і як з'явіўся ў хаце Луцэвічаў гэты куфэрак, ніхто не памятае. Бацька кажа, што гэта ён прыдбаў куфэрак на кірмашы ў Радашковічах. Маці ж стаіць на сваім: гэта дзядзька Антон, бацькаў брат, сам выштукаваў гэткую аздобу.

Сапраўды куфэрак быў прыгожы і лёгкі. Вечка адчынялася, не зусім адкідаючыся назад. Яно спынялася, як бы прыўзняўшыся на дыбачкі, і гэтак трымалася, пакуль не кранеш яго, каб апусцілася на месца. Бліскучыя тугія завескі трымалі тое вечка. А зачыняўся куфэрак на дзве такія ж бліскучыя зашчапкі. Моцна зачыняўся, бярэш за прымацаваную зверху ручку — і трымаецца.

Калі Ясю мінула чатыры гады, бацька прывёз яму з кірмашу дзве кніжкі, усе ў малюнках. Разглядаў іх



Малюнак Жэні ЗМІТРОВІЧА

Ясь, нешта мармычучы сабе пад нос. Анця ж, меншая сястрычка, абыходзілася з кніжкамі па-свойму, так і мерылася, каб выдраць які лісток. Дастала тады маці з гарышча куфэрак і сказала:

— Гэта табе, Ясю, на кніжкі.

Хлопчык агледзеў куфэрак, паклацаў зашчапкамі а пасля аднёс у запечак. Як прачнецца, адзенецца, памыецца халоднай вадзіцай над цэбрам, так і бяжыць у запечак. Выносіць куфэрак, дастае з яго кніжкі і, гартаючы, нешта выспеўвае сабе пад нос:

— У мамы мыдло... у птака скшыдло...

Слухаў неяк бацька, слухаў, узяў у Яся кніжку, глянуў, а там сапраўды гэтак напісана... І малюнкі побач: маці над балейкай з бялізнай трымае ў руцэ кавалак мыла. А на другім — прыгожы голуб узняў крыло, збіраючыся ўзляцець.

— Хто ж цябе, Ясю, навучыў чытаць па-польску? — запытаўся бацька ні то ў сына, ні то ў самога сябе.

( Працяг на стар. 10 )

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




## СЛУЦКАЯ ДРУКАРНЯ

Гісторыя беларускай кнігі багатая на славутыя імёны: Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец. На жаль, не ведаем многіх іншых імёнаў. Мы дагэтуль у даўгу перад безыменнымі майстрамі, якія рабілі паперу, адлівалі літары, набіралі словы, упрыгожвалі кніжныя аркушы... Усе яны працавалі на нашай зямлі і шмат зрабілі, каб данесці кнігу да „люду паспалітага".

Скаладаныя гістарычныя, палітычныя і сацыяльна- эканамічныя абставіны развіцця Беларусі XVII стагоддзя прывялі да таго, што кнігадрукаванне тут не было і не магло быць адзіным. Побач працавалі друкарні праваслаўныя і каталіцкія, уніяцкія і пратэстанцкія.

Адным з буйнейшых кнігавыдавецкіх цэнтраў гэтага часу была Слуцкая друкарня. Распачаўшы сваю дзейнасць на базе княжацкай друкарні Радзівілаў, яна ў 1672 годзе была пераведзена з Мітавы ў Слуцк і працавала тут да 1705 года, а ў час Паўночнай вайны была пераведзена ў Кёнігсберг. За нядоўгі час свайго існавання ў Слуцку друкарня здолела выпусціць каля 30 кніг. Яе арганізатары мэтанакіравана і настойліва праводзілі вялікую асветніцкую працу.

Здзіўляе разнастайнасць іх інтарэсаў. У Слуцку на польскай мове друкаваліся кнігі ваеннага і геаграфічнага зместу, мастацкія творы і календары, навучальныя дапаможнікі, кнігі рэлігійнага зместу. Неаднойчы рабіліся тут пераклады з нямецкай і французскай моў. Сярод слуцкіх выданняў — „Абшарнік, або Гаспадар ліфляндскі" І. Германа (1673), „Неабходныя заўвагі пра ваенны парадак" А. М. Фрэдры (1675). „Руская тэорыя" — падручнік па беларускай мове і г. д.

Адна з самых цікавых слуцкіх кніг — „Турэцкая манархія" П. Рыко ў перакладзе К. Клакоцкага (1678). Напісаная па асабістых назіраннях, кніга П. Рыко стала значнай падзеяй у культурным жыцці Еўропы 60–70-ых гадоў XVII стагоддзя. Яна выдавалася ў Лондане (1669), Парыжы (1670), Амстэрдаме (1671), Санкт-Пецярбургу (1741). Слуцкае выданне гэтага твора ўпрыгожваюць шматлікія гравюры вядомага беларускага мастака Максіма Вашчанкі, якія з'яўляюцца копіямі работ французскіх гравёраў С. Леклерка і Н. Кашэна.

Тыражы слуцкіх кніг вагаліся ад сотні да некалькіх тысяч экземпляраў. Цікавы змест гэтых кніг, высокі паліграфічны ўзровень дазвалялі выкарыстоўваць іх у якасці падарункаў.

**А. ПІКУЛІК**



## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ

З нейкага часу з'явілася традыцыя адзначаць у нашых школах першы дзень вясны. У школе ў Нараўцы рашылі гэты дзень прысвяціць вучнёўскай песні. 20 сакавіка ў спартзале адбыўся школьны песенны конкурс. Вучні з Нараўкі запрасілі на гэтую імпрэзу юных спевакоў з Ляшукоў. Нараўчанскія школьнікі рыхтаваліся да конкурсу пад кіраўніцтвам настаўніцы музыкі Аліны Саевіч, якая кожны дзень прыязджае ў Нараўку з Гайнаўкі. Конкурс працягваўся каля 3 гадзін.

Перамагла вучаніца 8-га класа з Нараўкі Кася Красоўская. Яе выступленне спадабалася і конкурснай камісіі, і ўсім гледачам. Добра спявалі таксама Марта Мароз, Эдыта Цепялеўская, Гражына Валкавыцкая, Эля Герасімюк і іншыя.

Школьнікі з Ляшукоў выступалі пад кіраўніцтвам вядомага прапагандыста песні, настаўніка Янкі Ціванюка. Яны спявалі польскія і беларускія песні, а таксама ігралі на флейтах і цымбаліках. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі кніжныя ўзнагароды і былі задаволены сардэчнай атмасферай свята вясны. Фундатарамі ўзнагарод былі Гмінная ўправа і Спулдзельчы банк у Нараўцы.

**МІКАЛАЙ ВАРАНЕЦКІ**




### З ЖЫЦЦЯ ВУЧНЯЎ

— Чаму ты, Мікола, не падрыхтаваў урокі?
— Я меў зусім іншы занятак.
— Які?
— У мяне ёсць коцік. Я яму цэлы вечар памагаў вераб'ёў лавіць.

* * *

Першакласнік Роберт лічыць да ста.
— Дваццаць восем, дваццаць дзевяць, дваццаць дзесяць!..
— Няма такой лічбы. Ёсць трыццаць, — папраўляе настаўніца.
— Як — няма?! Калі ёсць дваццаць дзевяць, можа быць і дваццаць дзесяць!

* * *

Прыбіральшчыца скардзіцца быцьку Марціна, што той на школьнай лаве намаляваў букет кветак, які ледзь адмыла. Цэлы вечар на гэта патраціла!
— Гэта яшчэ нічога, — смяецца бацька. — Марцін намаляваў на плоце сабаку, ды так, што паліцэйскі хацеў мяне аштрафаваць, што яго без намордніка на вуліцу выпусціў!

* * *

— Ад чатырох адняць чатыры, колькі гэта будзе? — пытаецца настаўніца.
Дзеці маўчаць.
— Не ведаеце? Падумайце: ёсць у вас чатыры яблыкі. Калі іх з'ясце, што ў вас застанецца?
— Чатыры агрызкі! — згодна крыкнулі вучні.

**ІРЭНА САЛАВЕЙ**

## ЯСЕЎ КУФЭРАК

( Працяг са стар. 9 )

— Ксёнжка, — адказаў Ясь.

Бацька забыўся, што і сам ён на службе ў двары вымушаны гаварыць па-польску. А калі сын пры ім бывае, дык і ў яго ж вушы не закладзены кудзеляй, чуе ўсё. Глянуў у шырока адкрытыя сынавы вочы і падумаў, што Ясю патрэбен настаўнік. А што папольску пісаны той буквар, дык невялікая бяда. Можа, і лепш, падрасце, падвучыцца, пойдзе на працу ў двор. А з панам трэба папольску ўмець размаўляць.

Беларускага буквара тады яшчэ не было, бо мова нашага народа пры цары не прызнавалася. Па-руску Ясь пачаў вучыцца пазней. Першай рускай кнігай, якую прынёс бацька ў хату, быў куплены ў Мінску каляндар. І яму знайшлося месца ў Ясевым куфэрку.

Даставаць куфэрак з запечка станавілася ўсё цяжэй. Асабліва калі пераехалі з Косіна ў Сенніцу. Тады хлопчык пачаў яго засоўваць пад ложак.

У Сенніцы Ясь якой паўзімы хадзіў у школу, але калі прыгрэла веснавое сонейка і Луцэвічы сабраліся пераязджаць у Мінск, вымушаны быў кінуць вучобу. Настаўніца Алімпіяда Васільеўна падарыла тады Ясю на развітанне тоўстую прыгожую кнігу.

Блакітная вокладка, а ў левым куточку малюнак — павучок у сваіх кросенцах ганяецца за мухай, якая заблыталася ў павуцінні.

Ранічкай даставаў Ясь з куфэрка гэту кнігу і зачытваўся так, што і паснедаць не адарвеш. Толькі і прасіўся ў маці:

— Ну, яшчэ крышачку, яшчэ хвілінку...

Хораша так, напеўна чытаў Ясь верш Някрасава. А скончыў — і да маці:

— Мама, гэта ж пра дзядзьку Пракопа, таго, з Кавалеўшчыны, што да нас у Косіна часта прыходзіў прасіць хлеба. Праўда?

— Праўда, праўда, сынку... — згаджалася маці. — Кнігі на тое і пішуцца, каб праўды на свеце больш было і каб больш людзей яе ведалі.

— А во, яшчэ паслухай, — не сунімаецца Ясь і пачынае чытаць верш пра школьніка.

Праз ельнік, пераціраючы босымі нагамі пясок, кіруецца сялянскі хлопчык у школу. І вельмі ўжо рады, калі яго наганяе незнаёмы чалавек на кані ўлегцы і прапануе: „Эй, садись ко мне, дружок!"

Пасля загортвае Ясь кнігу, прыціскае да грудзей і гаворыць па памяці любімы верш „Нязжатыя гоні".

Скончыў, глянуў на маці, убачыў яе ўзмакрэлыя вочы, вымавіў яшчэ раз пачатак верша. Толькі па-свойму, пароднаму: „Позняя восень. Буслы адляцелі, лес абгаліўся, палі апусцелі..." І пытаецца:

— Мама, мамачка, я буду яшчэ хадзіць у школу?

**Уладзімір Юрэвіч**




**Добры дзень, дарагая „Зорка"!**

Піша табе вучаніца 6 „б" класа сярэдняй школы н-р 2 у Мікашэвічах Аксана Балбуцкая.

Я хачу расказаць вам пра сябе. У мяне ёсць малодшы брат, яму пяць гадоў. Ён пойдзе у гэтым годзе ў школу. Я вельмі люблю чытаць кніжкі, маляваць, плаваць у рэчцы.

У мяне ёсць настаўніца — Алена Міхайлаўна. Гэта яна вядзе гурток „Крынічка".

Я люблю гатаваць з мамай тарты. Я вам напісала рэцэпт. Торт называецца **„Птушынае малако"**. Трэба ўзяць: *яйкі — 6 штук, 150 г сметанковага масла, 4 шклянкі цукру, 2 сталовыя лыжкі какао, 1 сталовую лыжку жэлаціну, 1/3 лыжачкі лімоннай кіслаты. Калі торт спячэцца, змазаць яго глазурай.*

Я вельмі хачу пазнаёміцца з хлопчыкам ці дзяўчынкай з Польшчы.

Мой адрас:

*225610, Беларусь,*
*Брэсцкая вобласць,*
*Лунінецкі раён,*
*г.п. Мікашэвічы,*
*вул. Першамайская, д. 97, кв. 13,*

**Балбуцкая Аксана**



АДГАДАНКА

*Які з ніжніх малюнкаў уставіш у пустое поле?*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# КУР'ЁЗЫ * СЕНСАЦЫІ * ВЕРСІІ

## ЗАГІНУЛІ Ў КОСМАСЕ

Лёс шматлікіх савецкіх касманаўтаў надалей невядомы. А ўжо інфармацыі аб катастрофах у космасе захоўваюцца ў глыбокай таямніцы. Былы Савецкі Саюз заўсёды прадстаўляў сваю касмічную праграму як адны дасягненні „без сукоў і шчэпак". Усё адбывалася згодна з планам. На Захадзе ўспрымалі гэта з недаверам. Гаварылі, што ў СССР ёсць асобныя засакрэчаныя магілы для загінуўшых касманаўтаў.

### ПАЖАР У БАРАКАМЕРЫ

Валянцін Бандарэнка быў самым маладым у першай групе касманаўтаў. Яму было 24 гады. Загінуў ён у такіх абставінах... Пад канец трэніроўкі ў баракамеры адключыў ён ад сябе прысоскі медыцынскага абсталявання і месцы іх падключэння памазаў ватай, змочанай спіртам. Затым нядбайна выкінуў яе. Трапіла яна якраз на кружок, нагрэты электраплаСцінамі. Усцыхнуў агонь. У атмасферы камеры, насычанай іёнамі кісларода, вокамгненна ўзнік пажар. Загарэлася вопратка касманаўта. Дзверы камеры адразу адкрыць было немагчыма (з-за розніцы ціску). Адкрылі іх пасля некалькіх хвілін. Ад шоку і апячэння Бандарэнка памёр пасля васьмі гадзін. Пахавалі яго ў Харкаве. У яго асталіся жонка Аня і 5-гадовы сын Аляксандр.

Інфармацыя аб гэтым здарэнні не была сакрэтам для заходніх служб і для заходняй прэсы. Аб згарэўшым у баракамеры касманаўце паінфармаваў у адной заходнегерманскай рускамоўнай газеце эмігрант С. Цікін. Другі эмігрант з СССР хірург Уладзімір Галяхоўскі апісаў гэты трагічны выпадак, удакладніўшы, што касманаўт памёр у Боткінскай бальніцы.

### СМЕРЦЬ НА АРБІЦЕ

На аснове там і сям пачутых расказаў на Захадзе падрыхтавалі спісак савецкіх лётчыкаў, загінуўшых на арбіце. Вось ён:

Лётчык Лядоўскіх загінуў у 1957 годзе зараз пасля старту з ракетнай базы ў Капусціным Яры на Паволжы.

Лётчык Шыборын загінуў у наступным годзе ў падобных акалічнасцях, а Міткаў — пад час трэцяй спробы ўваходу на арбіту ў 1959 годзе.

Невядомы касманаўт астаўся ў Космасе, калі ў 1960 годзе капсула пасля выхаду на арбіту змяніла кірунак палёту і патанула ў бязмежнасці. У верасні таго ж года ў часе старту ўзарвалася ракета, якая мела вынесці на арбіту капсулу і ў ёй Пятра Долгава. У красавіку 1961 года касмічны карабель з Уладзімірам Ільюшыным тройчы абляцеў Зямлю і разбіўся падчас вяртання на касмадром. 14 кастрычніка 1961 года касмічны карабель сышоў з правільнага шляху і прапаў у касмічным бяздонні.

19 лістапада 1963 года трагічна закончыўся другі палёт жанчыны ў Космас.

### ХТО НА ЗДЫМКУ ?

Пераглядаючы савецкія газеты і часопісы, можна сцвердзіць, што некаторыя рэдакцыі маюць выдатных рэтушораў. Гэта відаць на шматлікіх фотаздымках.

Пару дзесяткаў гадоў таму назад савецкія часопісы змяшчалі здымак шасці кандыдатаў у касманаўты, зроблены ў часе іх адпачынку ў Сочы. Гэтае фота паўтарылі з нагоды 10-годдзя палёту ў Космас Юрыя Гагарына. Не было на ім, аднак, Г. Нялюбава. Рэтушор яго ўстараніў, таму што выкінулі яго з калектыву касманаўтаў-стажораў. Былі таксама дзве версіі фотаздымка з 16 касманаўтамі. У другой версіі таго самага здымка можна было ўбачыць... адзінаццаць асоб.

Савецкія ўлады інфармавалі, што пасля смерці Бандарэнкі праз звыш 10 гадоў ніхто з касманаўтаў не загінуў. Пярэчаць гэтаму факты. У 1973 годзе ў саставе савецкай дэлегацыі ў ЗША была жанчына. Яна не скрывала, што з'яўляецца ўдавой па касманаўце Анатолію Токаве, ад 1967 года.

### ЧАМУ КРЭМЛЬ МАЎЧЫЦЬ?

Падобная трагедыя, як з Бандарэнка, паўтарылася ў студзені 1967 года на Мысе Кенедзі. У баракамеры згарэла трох касманаўтаў. Калі б у Амерыцы ведалі, у якіх акалічнасцях загінуў Бандарэнка, цалкам магчыма, што не дайшло б да гэтай, яшчэ большай, трагедыі.

У 1965 годзе з карабля „Усход-2" у адкрытую касмічную прастору ўпершыню выйшаў чалавек і... толькі цудам не дайшло да трагедыі. Якая яму пагражала небяспека, СССР не захацеў паінфармаваць амерыканскіх спецыялістаў па касмічных палётах. І так, на год пазней астранаўт ЗША, калі выйшаў з капсулы, трапіў у падобныя непрадбачаныя акалічнасці і, як кажуць, паглядзеў смерці ў вочы.

Да некаторых паражэнняў на шляху да заваявання Космасу Крэмль мусіў прызнацца. Вялікая трагедыя разыгралася ў красавіку 1967 года на „Саюзе—1". Перадсмяротныя крыкі Уладзіміра Камарова зарэгістравалі амерыканскія назіральныя станцыі. Ён ведаў аб сваім бязвыхадным становішчы, калі апынуўся на арбіце. Амерыканцы запісалі на магнітафоннай стужцы яго развітальныя размовы з жонкай, з Касыгіным, а таксама са сваімі калегамі з групы касманаўтаў. Калі прызямляўся, паведаміў аб нарастаючай тэмпературы, потым дайшоў толькі ўсхліп.

Савецкі інжынер Віктар Еўсікаў, які выехаў у ЗША, у сваіх успамінах напісаў, што „Саюз-1" не быў належна падрыхтаваны да палёту. Меўся ён адбыцца з нагоды Міжнароднага дня салідарнасці людзей працы, значыць з чыста прапагандысцкай мэтай. Рашэнне выслаць гэтую ракету ў Космас было вельмі рызыкоўнае. Аднак, палёт адбыўся. Ведаем ужо што было далей.

### ТРАГІЧНЫЯ ПРЫЗЯМЛЕННІ

30 чэрвеня 1971 года падчас прызямлення загінула трох касманаўтаў „Саюза—11". У СССР быў аб'яўлены дзень жалобы.

5 красавіка 1975 года ў Алтайскіх гарах дайшло да аварыі на самым старце ракеты. Касманаўты Васілій Лазар'еў і Алег Макараў цудам перажылі сутыкненне з зямлёю.

У 1979 годзе быў спынены палёт „Саюза—33", у якім загарэўся галоўны рухавік. На шчасце, не быў пашкоджаны аварыйны. Тады на палубе касмічнага карабля знаходзіўся, між іншым, балгар Георгій Іванаў (як другі пілот).

**Апрацаваў**

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




Шаноўны Астроне! Мне ў адну ноч прысніліся аж тры сны. Усе яны былі надта дзіўныя.

Першы сон. Быццам нехта ўлез у нашу кватэру. Дзверы з гукам вываліліся ў хату. Мне вельмі страшна. Баюся бандытаў. Ведаю, што гэта зладзеі.

Другі сон. Я лячу самалётам. Сустракаю там нейкіх людзей, якія гавораць мне, што яны — з бабулінай вёскі. І што дзіўнае: яны прапануюць мне нейкую падзертую вопратку, старую, з дзіркамі і латамі.

Трэці сон. Быццам я паехала ў пілігрымку ў Ватыкан. Хаджу там па саборы святога Пятра і аглядаю.

Даражэнькі Астроне! Я вельмі непакоюся гэтымі снамі. Можа ты мне скажаш, што яны абазначаюць?

**Эва**

Астроне! Ты пісаў калісь (у 11 нумары „Нівы"), што мяне чакае нейкая матэрыяльная страта (а не смерць кагосьці з блізкіх, як я меркавала), паколькі я ў сне абразала сабе валасы. Меў ты рацыю, Астроне! На другі дзень пасля таго сну мой муж разбіў машыну.

**Анна**

Эва! Твае сны сведчаць наогул пра нейкі смутак, небяспеку.

Зладзеяў сніць нядобра. Гэта прадвяшчае нейкую страту ці варожасць у адносінах да цябе.

Твой другі сон пацвярджае тэзіс аб нейкай страце. За гэта гаворыць тая старая вопратка з дзіркамі і латамі. Найгорш, што людзі тыя былі з бабулінай вёскі. Мо памрэ твая бабуля? Як я зразумела, яна ж яшчэ жыве.

Што датычыцца трэцяга сну, дык і ён абазначае смутак, але паколькі ты знаходзілася за мяжой, у Ватыкане, дык мо і смутак не будзе занадта вялікі.

Анна! Дзякую за прызнанне.

**АСТРОН**




Сэрцайка! Піша да цябе сястра дзяўчыны, якая выехала ў Амерыку. Справа тут зусім не сексуальная, не „сардэчная". Але нервы мае, прабач, ужо не вытрымліваюць.

Сястра мая выехала некалькі гадоў таму назад са сваім каханым хлопцам. Знайшлі там нейкую працу, нанялі кватэру. Праз год я даведалася, што сястра цяжарная і збіраецца нарадзіць дзіця. Шлюбу яны не бралі, але надалей жылі разам. Ну і як жа, дзіцятка нарадзілася ў пару, а роўна праз паўгода сястра прыехала ў Польшчу і пакінула яго ў немаладой ужо нашай маці. Мама — удава, бацька наш памёр некалькі гадоў таму назад. Яна часта хварэе. Аднак жа, хочучы дапамагчы дачцэ, згадзілася маленькую крыху патрымаць у сябе. Мінуў год, а пасля другі і трэці — ніхто па дзіцятка не з'яўляўся. Праўда, званілі часам і прысылалі дзяўчынцы вопратку і цацкі.

Я, дарагое Сэрцайка, яшчэ незамужняя, дык памагаю маці як магу. Іншым разам у мяне даслоўна сэрца разрываецца, калі бачу, што маці ледзь ходзіць, а трэба даглядаць дзіця, варыць яму, мыць бялізну. У маёй мамы вельмі хворыя ногі.

Цяпер, уяві сабе, Сэрцайка, і маю сітуацыю. Я яшчэ дзеўка, а да мяне ніхто не можа зайсці нават. Кватэра ў нас даволі цесная. А тут то малая спіць — нельга сказаць слова гучней, то малую купаем, то кормім. І ўсё жыццё круціцца вакол яе. Я момантамі адчуваю, што яна быццам мая дачка. Але ж праз усё гэта я магу застацца ў старых дзеўках! А маёй сястры — добра і спакойна. У яе ёсць хлопец (той жа, хаця дагэтуль яны не пажаніліся), а дзіцяці, ведае яна, ніхто тут крыўды не зробіць.

Маёй маці яна матывуе сваю неахвоту забіраць дзіця тым, што, магчыма, незабаве яны вернуцца дахаты і тут згуляюць вяселле. Калі ж забяруць дзіця ў Амерыку, давядзецца ёй кінуць працу, бо на няньку не заробіць. Дык наогул хай тады сядзець у той Амерыцы, калі вяртацца без доляраў давядзецца...

Мы з мамай і самі ўсё гэта разумеем і ідзем маёй сястры на руку. Але колькі ж яшчэ гадоў можа гэта прадаўжацца, бо здаецца мне, што ўсё гэта ідзе ў бясконцасць. А мае гадкі ляцяць... Што рабіць?

**Яніна**

Яніна! Трэба выясніць справу. Мо яны ў сапраўднасці збіраюцца вярнуцца, каб згуляць вяселле... дачкі?! Гэта ж вельмі важнае для цябе. Але думаю, што пакуль што да чаго, дык мусіш прызвычаіцца да існуючых варункаў. Дзяўчынка ўжо вялікая, і, думаю, ты павінна так арганізаваць дапамогу маці, каб мець і сваё прыватнае жыццё. Тваю маці можна зразумець: што ж яна, бедная ўдава, можа даць сваім дзецям, апрача такой дапамогі? А дапамагаць ж хочацца...

**СЭРЦАЙКА**




## ІТАЛЬЯНСКІЯ КЛЁЦКІ

**Цеста:** 250 г мукі, паўшклянкі малака, 3—4 лыжкі масла або маргарыну, 3 яйкі, паўтары лыжкі тлушчу для гатавання, соль, 100 г жоўтага цвердага сыру, яшчэ 3—4 лыжкі масла ці маргарыну для палівання.

Яйкі памыць, выліць са шкарлупіння, аддзяляючы жаўткі ад бялкоў. Жаўткі расцерці з маслам, спалучыць з прасеянай мукой і малаком, а пасля са збітай пенай з бялкоў, пасаліць. Металічнай лыжкай фармаваць прадаўгаватыя клёцкі, класці ў гарачую пасоленую ваду з тлушчам, зварыць пад пакрыўкай. Зварыўшы, выняць клёцкі друшляковай лыжкай, палажыць іх у посуд, змазаны тлушчам і пасыпаны цертай булкай, пасыпаць зверху сцертым на тарцы сырам, паліць маслам і запячы.

## РУСКІЯ КЛЁЦКІ

**Цеста:** 400 г варанай бульбы, 300 г тварагу, 2—3 цыбуліны, 1,5 лыжкі тлушчу да цыбулі, 2 яйкі, 2 лыжкі мукі, 1,5 лыжкі тлушчу для гатавання, соль і перац па смаку.

**Для паліўкі:** 100 г саланіны, 2 цыбуліны.

Цыбулю абабраць, нарэзаць дробна, падсмажыць, перамяшаць са змеленай у мясарубцы бульбай, змеленым тварагом і яйкамі, а таксама мукой, заправіць па смаку. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у кіпячую пасоленую ваду з тлушчам і варыць пад пакрыўкай. Зварыўшы, выняць клёцкі, адцадзіць іх і паліць скваркамі з саланіны з нарэзанай цыбуляй.

## КЛЁЦКІ З ПЯЧОНКІ

**Цеста:** 350 г пячонкі (птушынай ці цялячай), 5—6 лыжак мукі, 2 цыбуліны, 1,5 лыжкі тлушчу да цыбулі, чэрствая булка (50 г), 2 яйкі, 6 лыжак цертай булкі, соль па смаку, 1,5 лыжкі тлушчу да гатавання, 3 лыжкі масла.

Пячонку дробна пасячы. Цыбулю абабраць, дробна нарэзаць, падсмажыць, астудзіць, змалоць разам з пячонкай і намочанай у малацэ і выціснутай булкай. Спалучыць з яйкамі, прасеянай мукой і цертай булкай, дадаць соль. Клёцкі варыць, як у папярэднім рэцэпце. Паліваць іх цертай булкай, перамешанай з растопленым маслам.

## САКСОНСКІЯ КЛЁЦКІ

**Цеста:** 150 г мукі, чэрствая булка (50 г), 3 яйкі, 50 г разынак, 5 лыжак цукровай пудры, кілішак рому (10 г), 4 лыжкі масла, 1,5 лыжкі тлушчу да гатавання, соль.

Булку нарэзаць кубікамі. Жаўткі яек аддзяліць ад бялкоў. Масла сцерці з цукрам, пасля з жаўткамі, перамяшаць з прасеянай мукой, дакладна вымясіць, спалучыць з ромам, булкай, разынкамі і збітай пенай з бялкоў. Клёцкі рабіць, як у папярэдніх рэцэптах. Падаваць з абрыкосавым соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## НАША БУДУЧЫНЯ

Запрагайце, хлопцы, коні!
Хопіць трактарам катаць.
Выйдзем конна на загоны,
Каб па-даўняму араць.

Даставайце зноў сячкарні,
Прачышчайце маняжы,
Трэба латаць стары парнік,
Што дзіравы ад іржы.

Дачапляйце ў воз аглоблі,
Дышаль кіньце пад страху,
Забівайце зубы ў граблі,
Ладзьце новую саху.

З-пад страхі касу вазьміце,
Навучыцеся касіць,
А гадзіннік палажыце,
Певень будзе вас будзіць.

Пакуль жыў яшчэ дзядуля,
Хай касу вучыць кляпаць,
А старэнькая бабуля
Няхай вучыць кросны ткаць.

Трохі ворнай ды балота
Вы пакіньце для сябе,
Бо інакш будзе згінота.
Не задбаюць пра цябе.

Нам зямлі многа не трэба,
Абы сем'і пракарміць,
Мецъ кармы ды сабе хлеба.
Прывыкаць трэба так жыць.

У каго ёсць старыя жорны,
Стаўце ў сені чым хутчэй,
Будзем зноў малоць ў іх зёрны
Вечарамі пры свячэ.

Трэба ўжо забыць пра грошы,
Бо і скуль жа іх дабыць,
Хутка будзем голы, босы,
Касцюм, туфлі трэ забыць.

Абіякі* нас уцешаць,
Зрэбну куртку трэба шыць.
Хай нам Захад брава плешча,
Што у Польшчы добра жыць.

Гэтак будучыня наша
Паляпшаецца штодзень.
На стале бульба ды каша,
З дзяжы квас ды цёрты хрэн.

Запрагайце, хлопцы, коні
Ды ў касцёл трэба спяшаць.
Не паедзе ўжо „палёнэз",
Бо за што бензін купляць?

**Я. ФЕДЗЮКЕВІЧ**

-------------------

***Абіякі — абутак на драўлянай тоўстай падэшве, абабіты халяўкамі са зношаных ботаў ці чаравікаў; у абіяках хадзілі перад вайной і ў час акупацыі.**




*Мал. А. Шаўцова.*






*– Не хвалюйся, каханы, гэта толькі натурыст.* *Мал. А. Адамовіча.*

## СВАТЫ

У адной вёсцы быў хлопец, які вельмі многа еў. Куды не завязуць яго ў сваты, заўсёды гэта канчыцца тым, што пабачыўшы як ён есць і есць, дзяўчыны і іх бацькі адразу яму адмаўлялі.

Рашыў сват завезці яго ў другі прыход. Бацькі накармілі яго дома, ды на дарогу таксама далі яду, каб у гасцях не еў так многа. Сват сказаў хлопцу, што ў гасцях ён можа тады есці, калі той наступіць яму на нагу.

Калі гасцей пасадзілі за стол ды пачалі частаваць, у хату ўвайшоў суседаў сын, а за ім убег сабака. Сабака лёг пад сталом, пачаў махаць хвастом і біць ім аб нагу хлопца. Той падумаў, што гэта знак ад ягонага свата, і так пачаў есці, што ажно вушы трэсліся. Не памог нават моцны штуршок у бок ад свата. Бацькі і дзяўчына штораз адыходзілі ад стала, каб данесці яду. Калі гаспадары прынеслі гляк з тушанай бульбай з мясам, хлопец палез з рукамі ў страву. Хатнія гэтага не заўважылі, бо зноў адышлі на кухню, а хлопец не мог выняць рук і схаваў гляк між нагамі. Вярнуўшыся з кухні, гаспадары зноў сталі запрашаць есці, але жаніх стаў адмаўляцца. Усё стараўся ён выняць рукі з гляка, ды не змог. Устаць ад стала таксама было брыдка. Рашыў ён схітрыць: пачаў трэсціся, як у ліхаманцы і гаварыць, што яму блага.

— Начуйце ў нас, — сказала гаспадыня. — Мо за ноч пройдзе?

— Не, — адказаў сват, — лепей паедзем дадому.

Сват накрыў няўдалага жаніха радзюжкай і так выйшлі з дому разам з бацькам дзяўчыны. Пакуль сват запрагаў каня, хлопец круціўся, каб пазбыцца гляка. У цемры заўважыў, што побач нешта стаіць, быццам стоўб. Падыйшоў да яго, ды як не трэсне глякам:

— А бадай цябе ліха! Ты мне есці не даў, дурны чарапок!

— А мой ты сынок! Я ж цябе так моцна прасіў, каб ты еў, а ты ўсё адмаўляўся, а цяпер мяне нявіннага б'еш? — пакрыўдзіўся гаспадар, на галаве якога гляк разбіўся.

Хлопец кулём кінуўся да воза. Без слова ад'ехалі з гэтай вёскі і ўжо больш ніколі не ездзілі ў сваты.

**АЎРОРА**

## АНЕКДОТЫ

— Ой, не спяшайся, дачушка, замуж... Бач, цяпер мужы то ўсё штораз горшыя, — павучае маці.

— Вось я і павінна спяшацца, каб мне не дастаўся найгоршы, — адказвае дачка.

* * *

— Зінка! — крычыць суседка суседцы. — Вашы тры сыны зноў улезлі на маю аблыню.

— Ох, бяда! — усклікнула суседка. — А куды ж падзеўся чацвёрты?

* * *

Мужчына жэніцца другі раз і пытаецца ў свайго сына:

— Ну як, сынок, падабаецца табе наша новая мама?

— Ведаеш, тата, цябе, відаць, ашукалі. Яна ж не такая новая.

* * *

Пархвен ваыбраўся праведаць знаёмага. На парозе страчае яго гаспадар з вялікім бульдогам:

— Заходзьце, калі ласка!

— А сабака мяне не ўкусіць?

— Мне самому цікава, бо ён у мяне толькі першы дзень.

* * *

Цётка Ганна, кладучыся спаць, чытала ўголас малітву:

— Усемагутны, ачысці душу маю грэшную...

А ў гэты час на гарышчы злодзей знімаў з шаста каўбасы. Пасля слоў цёткі ён не стрываў і ўсклікнуў:

— Ачышчу, ачышчу!!!

Пачуўшы голас з неба, узрадаваная цётка Ганна папрасіла:

—І душу сястры маёй Марыі ачысці...

— А гэта ўжо як паспею, – адказаў жартаўнік-злодзей.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

## РАЗЕТКА

**Управа:** 1) у ёй пісталет, 2) славеснае паведамленне, 3) у ім расце морква і рэдзька, 4) рухаецца вельмі марудна, 5) свішча на спартсменаў, 6) млын з крыламі, 7) мае завостраны канец і маленькае вушка, 8) Ягайла.

**Улева:** 1) лісток цвёрдай паперы, 2) грашовая адзінка, якой можна ўціснуць сена на возе, 3) на вярбе растуць грушы, 4) беларускі „пан", 5) гультай, 6) знешні выгляд, 7) і 100 та, 8) неспакойная думка, хваляванне.

Увага! З літар у нумараваных клетачках (ад 1 да 8) атрымаецца адгадка.

**„ЯДАНЬ"**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 9 н-ра. Управа:** удава, ураган, увар, урок. **Улева:** удар, урывак, увага, уран.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Барбара Гура з Любліна і Андрэй Борань з Бельска-Падляшскага.

********************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- maj – 15 000 zł.
- czerwiec – 12 000 zł
- lipiec – 14 000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016